

Радасны Дзень Волі → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Віншуем Анэту Прымаку → 4


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 14 (3177) Год LXII Беласток, 2 красавіка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Год да стагоддзя

**У Беластоку і іншых гарадах у Польшчы адзначаліся 99-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі — 25 Сакавіка, Дзень Волі. У сувязі з весткамі, якія даходзілі з «МЕНТска» перад 25 сакавіка, і ў той дзень, святкаванне праходзіла ў сумнай атмасферы. Сам выхад беларусаў пад сцягам ці з кветкамі на свята, якое павінна быць і дзяржаўным, і сямейным, быў сведчаннем геройства. Пацярпелі ў асноўным прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі і журналісты. Узброеныя ў агнястрэльнае ружжо АМАПаўцы білі і хапалі любых грамадзян, якія адважваліся быць нават толькі сведкамі падзеі. Былі затрыманы сотні чалавек па ўсёй Беларусі.**

У Беластоку Дзень Волі традыцыйна адзначаецца сябрамі Беларускага саюза ў Польшчы. У клубе «Змена клімату» 25 сакавіка беларусы Падляшша розных пакаленняў пад бел-чырвона-белымі сцягамі і стужкамі пачалі свята гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Вядучы, Юрка Ляшчынскі на ўступе прачытаў зварот старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чужыне Івонкі Сурвілы: «Неабходна, каб лінія абароны Еўропы не праходзіла ўздоўж мяжы паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам, а ўздоўж усходняй мяжы з Расіяй. Мае дарагія суайчыннікі на радзіме, неабходна, каб вы таксама сказалі свету, што Беларусь зноў не будзе калоніяй Масквы. На жаль, з сумам мушу сказаць, што трэба быць героем у Беларусі, гатовым змагацца за свабоду нашай зямлі».

Яўген Вапа, старшыня БС у Польшчы, дзеянні беларускіх улад супраць беларускай мовы, культуры і незалежнасці назваў злачынствам супраць уласнага народа і дзяржавы, разбурваннем падмурка беларушчыны.

— **Захаванне незалежнасці** — гэта выклікі, якія адбываюцца заўсёды на фоне геапалітычных падзей. Менавіта праз вялікую палітыку і ўнутраную, мілітарную слабасць не ўдалося абараніць незалежнасць БНР у дваццатых гадах мінулага стагоддзя. Надзеі ўваскрэслі і ажыццявіліся з пачаткам дзевяностых, калі пасля развалу Савецкага Саюза на міжнароднай, палітычнай карце з'явілася незалежная Рэспубліка Беларусь... Праз год перад намі круглая, сотая гадавіна Беларускай Народнай Рэспублікі. Ужо сёння хачу ўсіх тут прысутных заклікаць да стварэння і ўступлення ў ганаровы грамадскі камітэт юбілейных святкаванняў на Падляшшы і ў Польшчы. Святкаванні сотай гадавіны павінны мець сваю маштабнасць, аранжыроўку і як найшырэйшую, грамадскую паінфармаванасць. А калі яшчэ дэмакратычныя перамены будуць мець месца ў беларускай дзяржаве, дык радасць і ранг юбілею ўзрасце неверагодна.

Старшыня БС у РП заклікаў самаўрады Беласточчыны, мясцовасцей населеных беларускай меншасцю, каб уводзілі двухмоўныя назвы сваіх населеных пунктаў (увяла іх толькі Арлянская гміна) — гэта магчыма ў адпаведнасці з Законам аб нацыянальных і этнічных меншасцях ад 2005 года. Такім чынам наша, шматвяковая прысутнасць на гэтай зямлі прыняла б і відочнае, вонкавае выяўленне. Гэта было б актам адвагі і адказнасці за лёс і будучыню нашых малых айчын. Таксама выступаў за стварэнне незалежных беларускіх выбарчых камітэтаў да мясцовых выбараў у наступным годзе, бо, як сказаў, беларусы ў Польшчы не былі выкарыстаны толькі ў якасці палітычнага мяса для паасобных партый. Выказаў супраціў фальсіфікацыі пасляваеннай гісторыі ў адносінах да беларусаў у Польшчы, і асабліва некаторымі палітычнымі сіламі, якія прапаведуюць хлусню пра забойства нявінных ахвяр у спацыфікаваных праваслаўных вёсках на Беласточчыне ды выказаў падзяку тым, хто стаіць у іх абарону. Барбара Пякарская, лекар, адна з заснавальнікаў Беларускага аб'яднання студэнтаў, падкрэсліла:



Злева: Алег Латышонак, Славамір Іванюк і Славамір Назарук



**Кніга пра беларусаў не толькі для беларусаў**

Свята ў Беластоку было таксама нагодай пазнаёміцца з незвычайнай і доўгачаканай кнігай «Historia Białorusinów Podlasia». Прадставіў кнігу адзін з яе аўтараў Алег Латышонак. Багата ілюстраваная «Historia Białorusinów Podlasia» апублікавана на польскай мове. Планецца беларускамоўны выпуск гэтай каштоўнай кнігі. Кніга была створана па ініцыятыве дзеючага ў Беластоку Аб'яднання дзеля дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову «АББА». Апублікавала яе Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку. Кніга адрасавана не толькі вучням або студэнтам, але і шырокаму колу чытачоў, зацікаўленых у рэгіянальнай гісторыі і польска-беларускім памежжы. Гэта першая комплексная манаграфія на гэтую тэму, якая з'явілася на выдавецкім рынку, і першае падвядзенне працы цэлага пакалення беларускіх гісторыкаў Польшчы, ад дагістарычнага часу і сярэднявечча. На амаль 540 старонках аўтары ў дзевяці раздзелах кранаюць гісторыю беларусаў Падляшша, ад палеаліту, мезаліту, неаліту праз сярэднявечча, перыяд Вялікага княства Літоўскага, дзевятнаццатага стагоддзя, дзвюх сусветных войнаў, да часу Польскай Народнай Рэспублікі і 1989-2015 гадоў. «Гісторыю беларусаў Падляшша» спісвалі гісторыкі беларускай нацыянальнасці, звязаныя з навуковымі асяродкамі Беластока, Ольштына і Варшавы: Яўген Мірановіч, Алег Латышонак, Алена Глагоўская, Славамір Іванюк, Пятро Хомік, Збігнеў Місюк і Генадзь Семянчук.

— Пані з аб'яднання **АББА** "цiснулі" БГТ, каб кніга была створана. Напісанне такой кнігі, вядома ж, было мэтай БГТ з моманту яго стварэння, але адкладалі мы гэта на потым, і добра што нейкім чынам прымусіла нас да гэтага АББА, — прызнаўся А. Латышонак. — Самым галоўным для нас, аўтараў, было паказанне пераемнасці нашай гісторыі. Некаторыя людзі дзівяцца, што мы дасягаем у сваёй гісторыі аж да палеаліту. Тым часам з генетычных даследаванняў вядома, што ў жыхарах Падляшша цячэ кроў многіх народаў ці людаў, якія жылі на гэтых землях, а часам проста праз яго прайшлі. Тое, што вызначэнне беларусаў з'явілася параўнальна позна (у XIX ст.), не мяняе таго факту, што мы былі тут ад таго часу. Раней тыя ж людзі, якія пасля былі ідэнтыфікаваны як беларусы, называлі сябе русінамі, частка продкаў беларусаў — літвінамі...

Новую каштоўную гістарычную кнігу, а таксама другое выданне «Бежанства 1915» — дзве кнігі вельмі важныя для тоеснасці беларусаў Падляшша — мог атрымаць кожны ўдзельнік свята.

**Бел-чырвона-белыя кветкі**

Традыцыйна на Дзень Волі ў Беластоку бел-чырвона-белымі букетамі ўзнагароджваюцца тры асобы, якія маюць асаблівую заслугу для падтрымкі беларушчыны ў Польшчы. Сёлета кветкі атрымалі гісторыкі Алег Латышонак і Славамір Іванюк з Беларускага гістарычнага таварыства, якое давяло да выдання кнігі пра гісторыю беларусаў Падляшша, і радны Гарадской рады Беластока Славамір Назарук, які, сярод іншага, эфектыўна імкнецца ўвекавечыць асобы, звязаныя з беларускасцю і праваслаўем, шляхам прысвоення іх імён вуліцам і пляцам (м.інш. пляц Бежанства 2015 г.) ды прамаўляе ад імя і ў інтарэсах беларусаў. Сёння таксама прынёс ён вынік сваіх стараннаяў — ужо ўхвалены Радай праект разбудовы беларускага садка № 14. Усе адзначаныя бел-чырвона-белымі краскамі на Дзень Волі асобы часта бываюць кідка-харызматычнымі, вядучымі ўперад іншых, але бываюць сярод іх і ціхія руплівцы на беларускай ніве, якіх арганічная праца і важкасць дзеяння не кожным заўважаецца, але дзякуючы іх дзеянням жыве наша Беларусь тутэйшая! Адзін з іх гэта праф. Юры Туронак, стваральнік беластоцкай гістарычнай даследчыцкай школы, пра якога фільм (у рэжысуры Радаслава Дамброўскага з серыі «Носьбіты культуры») паглядзелі мы на свяце. Юры Туронак, «чалавек даваеннага складу», ад 1960-х гадоў займаўся гісторыяй беларускага нацыянальнага руху і выхаваў не адно пакаленне даследчыкаў роднай гісторыі.

Грамадска-сямейны Дзень Волі ў Беластоку працягваўся яшчэ доўга вечарам, але горыч і турбота ахоплівалі ўдзельнікаў, якія сачылі за падзеямі ў сталіцы Беларусі. Усё ж, жыве, і будзе жыць!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**





# Мір і вайна

Пасля шасці гадоў застою і дэпрэсіі беларускае грамадства абудзілася. Яно ўзрушана, абурана і больш радыкальна настроена, чым раней. Але пасля жорсткага рэагавання ўлад на мірныя сходы і выступы, сілавога падаўлення і здушэння пратэстаў, рызыкуе яшчэ больш упасці ў дэпрэсію, зняверыцца ў тым, што ў дзяржаве хоць нешта можна зрабіць, змяніць, каб дамагчыся ўрэшце чаканай вольнасці. Аналітыкі прыводзяць слушныя і не зусім паралелі з сітуацыяй 2010 года, калі была разагнаная Плошча, а грамадства пагрузілася ў стан суцэльнага расчаравання і летаргіі. Міру зноў абвешчана вайна.

Многія зараз пішуць, што рэжым перайшоў апошнюю маральную рысу, што для яго не засталося ніякіх бар'ераў стрымання, што дыктатура ўсталявалася канчаткова. Гэта ўсё, канешне, лухта, бо апошнія межы гэты рэжым перайшоў яшчэ ў 1999-2000 гадах, калі бясследна знікла некалькі апазіцыйных палітыкаў, журналіст і гэтыя палітычныя забойствы былі замоўчаны уладай. Усё, што адбывалася пасля — гэта толькі прылівы і адлівы з пэўнымі элементамі цунамі. Зараз вось прыйшла новая вялікая хваля палітычных рэпрэсій. З уладай нічога новага ці дзіўнага не адбылося і не адбудзецца. Дзіва хутчэй у іншым — як за ўсе гэтыя гады ў час масавых жорсткіх збіванняў на плошчах нікога не забілі на смерць. Вось гэта сапраўдны цуд. Праўда, не будзем тут забывацца ні пра невытлумачаны дзіўны тэракт у мінскім метро ў красавіку 2011 г. і 15 загінулых, ні пра паспешлівы расстрэл двух маладзёнаў, якіх у тым выбуху звінавацілі, але віну якіх ніхто не даказаў.

З уладай усё зразумела. Гэты мінскі філіял дыктатуры абваліцца адначасна, ці крыху раней, ці толькі крыху пазней, разам са сваім галоўным офісам у маскоўскім Крамлі. Невыпадкова ўслед за масавымі акцыямі пратэсту ў Беларусі пайшлі мітынгі і па расейскіх гарадах. Пры гэтым гэты гібрыдны двухгаловы, ці шматгаловы рэжым, яшчэ можа загубіць мноства жыццяў, паламаць тысячы лёсаў. Такія рэжымы не ведаюць жалю — як гаворыцца, ні да жанчын, ні да старых, ні нават да дзяцей, што мы ўбачылі чарговы раз у час разгону мірных дэманстрантаў у цэнтры беларускай сталіцы. Гэтая сістэма збудавана на суцэльных хлусні і злосці, ашуканстве і нянавісці. Татальнае і абсалютнае зло — яе глыбінная сутнасць. Тут пытанняў няма даўно.

А вось да дурных і гарачых галоваў, якія не слухалі больш ціхіх, але разумных галасоў, пытанні застаюцца. Я маю на ўвазе тыя беларускія медыя-рэсурсы і некаторых палітыкаў, якія на хвалі народных пратэстаў яшчэ за пару тыдняў да Дня Волі сталі паўсюдна крычаць: „Рэжыму канец!", „25-га Беларусь прачнецца ў новай краіне!", „Настала гадзіна рэвалюцыі!" і таму падобнае. Гэтыя дурныя заклікі ў значнай ступені справакавалі неадэкватныя загады кіраўнікоў і жорсткія дзеянні сілавікоў, у якіх чарговы раз „знесла дах". Грамадзянская супольнасць зноў бязлітасна „зачышчана", многія людзі дэмаралізаваны. Але вясна 2017 года ў значнай ступені адкрыла тысячам новых людзей вочы на сапраўдную сутнасць гэтага рэжыму. Таму, нягледзячы на новы разгром грамадзянскай супольнасці, улада не можа адчуваць сябе пераможцам — супраць яе выступіла зараз мноства новых, раней нейтральных людзей і нават былых прыхільнікаў. Новая хваля выступаў супраць антынароднай палітыкі, безумоўна, наперадзе, але калі — ніхто не ведае.

Беларускі ж народ мусіць зараз знайсці новыя формы салідарнасці, новыя метады і спосабы негвалтоўнага змагання, выпрацаваць гэткі наш беларускі гандызм, элементы якога мы па сутнасці ўжо бачылі ў гэтыя сакавіцкія дні на вуліцах і плошчах розных гарадоў. Людзі сталі разумнейшымі ў многім, яны ўжо не хочуць самападманвацца, не хочуць маўчаць і маўкліва цярпець здзекі. Яны пачынаюць усё больш ідэнтыфікаваць і фіксаваць выканаўцаў злачынных загадаў — карнікаў-суддзяў, карнікаў-міліцыянтаў, карнікаў-„омоноўцаў", адказных за растаптанне заканадаўства службовых асоб. Адсюль усялякія вулічныя графіці, стрыт-арты, дзе з'яўляюцца партрэты канкрэтных вінаватых у беззаконні людзей. Асаблівая каста злачынцаў — гэта дзяржаўныя прапагандысты. На будучым беларускім „нюрнбергскім працэсе" яны павінны сядзець у першым шэрагу. Але пра гэта ўжо пазней.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Цяпер час



Міліцэйскія дубінкі ў Беларусі, аднак, пайшлі ў рух. Я не думаў, што гэта адбудзецца так хутка. Я памыліўся, і не толькі ў гэтым. Хаця на «добрую змену» прэзідэнта Беларусі не дазволіў сябе падмануць, як прыхільнікі польскіх перамен да лепшага. Урэшце ж, «лепшае чым горшае» настолькі дрэннае, як «менш горшага». Увогуле, якая розніца, калі ўсекчы галаву іржавай сякерай ці бліскучым мячом?

Дрэннае ў кепскім у Беларусі не змянілася, калі амаль з дня ў дзень у прэзідэнце Лукашэнку адбылася «стывенсанаўская» перамена з «цёплага чалавека» ў нацыянальнага вампіра; з добразычліваога доктара Генры Джэкіля ў злавесната Эдварда Хайда. У навеле Стывенсана, у якой выступаюць гэтыя дзве ў адной антаганістычныя формы перамены добрага ў благога, выкарыстоўваецца наркотык. Чым «штахнуўся», ці ў што ўнюхаўся Лукашэнка — не мае значэння. Важна тое, што ў чарговы раз радыкальна змяніў палітычны твар, што варта падкрэсліць, і, нарэшце, спытацца з заклапочанасцю, якія апіяты спажыў — мабыць, расійскія, якія з'яўляюцца вынікам хімічнай сублімацыі пуцінскага бізуна, а можа толькі алембічныя самагоначнай моцы — нягледзячы на ўсё і любым коштам? У любым выпадку, хто б яго наступным пераўтварэннем быў здзіўлены, хай плюе сабе ў бараду. Ах, міністр Вашчыкоўскі ўжо пагаліўся? Заўсёды чыста выгалены прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда не мусіў. Але спешна абвясціў сваё расчараванне стаўленнем Аляксандра Лукашэнкі да беларускай апазіцыі. У тым жа духу выказаўся на твітары маршалак Сената Польшчы Карчэўскі — той жа чалавек, які калісьці ўбачыў у беларускім прэзідэнце «цёплага чалавека». Цяпер празрэў, убачыўшы скатаваных дубінкамі людзей. Хай там. Яны выдатна ведалі, што чакаюць іх болі ў спіне. Выпростванне чалавечых спін, якое называюць у лукашэнкаўскай прапагандзе «незаконнай акцыяй пратэсту» паказвае на іхні адчай. Або лепш: мужнасць. Простую мужнасць чалавека і грамадзяніна. На жаль, яе не стае нашым польскім фон Метэрніхам. Што тычыцца гэтага, я памыліўся больш за ўсё. Таму што не ў іх палітычнай наіўнасці, а звычайнай прыстойнасці. Так што я паверыў у яе... ды ў іх.

Іх здагадка, што аблезлы воўк, апрануты ў скуру свежазабітай авечкі, зменіць сваю прыроду, была гэтак жа наіўнай, цынічнай, дурной і непрыстойнай. Такое стаўленне блізкае да філасофіі электрычнага пастуха, які, як вы ведаеце, бяздумна б'е электрашокам па зачыненых, збітых авечках, як і па ваўках, што стаяць за агароджай. Толькі што ваўкі маюць куды адступіцца. Авечкі не маюць куды. Я памыляўся наконт прыстойнасці прэзідэнта Дуды і маршалка Карчэўскага. Я чакаў, што папросяць прабачэння. З аднаго боку, у польскай грамадскай думкі. З другога — у беларускага грамадства. Я быў наіўны у гэтых адносінах. Хай там мая рэпутацыя! Якая б там яна ні была, хай ніхто пра гэта не клапоціцца. А найменш тыя, чые спіны былі выкарыстаны ў якасці барабанаў да збіцця. На шчасце, не дарэмна. Тупыя стогны бітых спін атрымалі шырокі водгук у Еўропе. Еўрапейскі Саюз заклікае беларускія ўлады «паважаць свабоду меркаванняў і вызваліць многіх звычайных грамадзян і журналістаў, затрыманых падчас акцыі пратэсту, арганізаванага ў Дзень Волі». Затрыманні адбыліся ў Мінску і іншых гарадах. І гэта ступень пратэстаў або грамадскага выпроствання спіны здзіўляе. Што тычыцца гэтага, і я тут быў няправы, мяркуючы, што больш раннія праявы маніфестацыі перад уладай з-за дурнога дэкрэту супраць «дармаедаў» з'яўляюцца проста выпадковымі. Я падазраваў нават, што яны могуць быць натхнёныя расійскай агентурай! Нават калі і было так, справа выходзіць з-пад яе кантролю. Паралельна і незалежна ад беларускага кантэксту і ў Расеі наступілі акты сацыяльнага бунту, накіраванага супраць страшэннай карупцыі і цынізму пуцінскай улады. Іх маштаб таксама здзіўляе, так як і ў Беларусі. Калі б я меў рацыю на гэты раз — ідзе час рэальных змен. Ані надзвычай добрых, ані дрэнных. Яны заўсёды паказваюць сваю праўду пасля. Ну, а калі змены ў Польшчы?

**Мірaслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Акт 25 Сакавіка

## — веснавы акт надзеі беларускага народа

Сардэчна вітаю ўсіх на ўрачыстых святкаваннях дзевяноста дзявятай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Амаль сто гадоў прыходзіцца нам наглядаць за складаным шляхам беларускага народа да сваёй поўнай незалежнасці, ідэі якой 99 гадоў таму, на стагоддзе ўжо, упісалася ў сэрцы і душы беларусаў. А ўсё дзякуючы летуценным стваральнікам Беларускай Народнай Рэспублікі. Захаванне незалежнасці — гэта выклікі, якія адбываюцца заўсёды на фоне геапалітычных падзей. Менавіта праз вялікую палітыку і ўнутраную, мілітарную слабасць не ўдалося абараніць незалежнасці БНР у дваццатых гадах мінулага стагоддзя. Надзеі ўваскрэслі і ажыццявіліся з пачаткам дзевяностых, калі пасля развалу Савецага Саюза на міжнароднай, палітычнай карце з'явілася незалежная Рэспубліка Беларусь. Выклік захавання сёння яе суверэнітэту і дэмакратычнага характару — гэта ізноў тая справа, за якую ў турмах, арыштах, судах праследуюцца ўжо апошнімі дваццацію гадамі тысячы беларусаў. Мы тут на шчасце забылі пра жахлівасці аўтарытарнай улады, якая жорстка распраўляецца з іншадумцамі. Чым такія рэпрэсіі ёсць для саміх абвінавачаных і іхніх блізкіх і родных? Адчуванне нашай беларускай салідарнасці і спагадлівасці з тымі людзьмі павінна быць натуральнай рэакцыяй. Так звычайна, па-чалавечы, але і ў імя нацыянальнай адказнасці. На жаль, выклікаў не зменшваецца, а наадварот, усё іх больш і больш, так унутры краіны, як і на міжнародным полі. Сітуацыя ўскладняецца, асабліва калі насупраць тваёй мовы, культуры, незалежнасці ідзе наступ не толькі ад вонкавых фактараў, але калі сваімі рукамі ў імя ўлады і дзеля толькі ўлады разбураюцца нацыянальныя фундаменты і генатып роднай мовы і культуры. Гэтага не можам інакш назваць як злачынствам супраць свайго народа і дзяржавы. Але гісторыя паказвае прыклады, што вінаватых за здзек над сваім народам людзей чакаў не толькі суд Божы і гісторыі, што часта была магчымасць асудзіць іх яшчэ пры жыцці незалежнымі судамі. Бо нягледзячы на ўсё мы мусім памятаць пра тое, што справа нацыянальнай незалежнасці ёсць і будзе заўсёды надзейнай справай. Пакуль людзі хочуць быць гаспадарамі на сваёй зямлі, то з іхніх думак і летуценняў не знікне і беларуская дзяржава. Падзеі апошніх тыдняў паказваюць гэта выразна. Не хочуць беларусы быць толькі рабамі ў сваёй дзяржаве. Хлеба і волі па ўсёй краіне патрабуюць ужо ўсе праслойкі грамадства. Не быць скацінай і адкінуць паўсюдны страх — гэта той імпульс, які выявіўся пратэстнымі настроямі. Вядома, шмат людзей зняверылася ў лепшую нацыянальную і асабістую будучыню. Працягваецца палітычная і эканамічная эміграцыя з Беларусі. Пакінутыя на цяжкае выжыванне і выпрабаванне сотні тысяч беларусаў хварэюць фізічна і духоўна ад выклікаў штодзённышчыны. Балюча і крыўдна становіцца на душы калі даведваешся, што чарговыя таленавітыя людзі свету культуры, навукі, журналістыкі ці палітыкі не ёсць запатрабаванымі ў сваёй дзяржаве толькі па той прычыне, што яны думаюць і ўсё робяць з беларускага пункту гледжання. Некаторыя з іх, не вытрымаўшы актуальнай палітычнай абстаноўкі, апынуліся не па сваёй волі ў другім, мабыць, лепшым свеце. Але менавіта дзеля духоўнага ўзмацнення і еднасці ў імя беларускасці адзначаем мы 25 Сакавіка, наш Дзень Волі, які для беларусаў яшчэ не завяршыўся поўнай перамогай, але які дазваляе нам адчуваць сябе як роўных з іншымі народамі. І дазваляецца ў гэты дзень мець спадзяванне, што яшчэ за нашага часу зможа беларускі народ пад дзяржаўнымі бел-чырвона-белымі сцягамі і гербам Пагоня вызначыць сваю незалежнасць і будаваць палітычную прысутнасць на міжнароднай карце. Праз год перад намі круглая, сотая гадавіна Беларускай Народнай Рэспублікі. Ужо сёння хачу ўсіх тут прысутных заклікаць да стварэння і ўступлення ў ганаровы грамадскі камітэт юбілейных святкаванняў на Падляшшы і ў Польшчы. Святкаванні сотай гадавіны павінны мець сваю маштабнасць, аранжыроўку і як найшырэйшую, грамадскую паінфармаванасць.

А калі яшчэ дэмакратычныя перамены

працяг ☞ 4

# **Дзень Незалежнасці** ў Гайнаўцы і Бельску


Тамаш Суліма ў Гайнаўскім белмузеі зачытаў зварот старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў замежжы Івонкі Сурвілы да беларускай нацыі з нагоды святкавання Дня Волі

У Бельскім і Гайнаўскім белліцэях і Гайнаўскай белгімназіі святкаванне Дня Волі стала ўжо традыцыяй. 21 і 24 сакавіка вучні гэтых адукацыйных устаноў, карыстаючыся бел-чырвона-белымі сцягамі і гербам «Пагоня», падчас агульнашкольных святкаванняў адзначылі 99-я ўгодкі стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. 25 сакавіка ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы сабраліся беларусы Гайнаўшчыны, а да іх далучыліся беларусы з Бельска-Падляшскага, Беластока і Рэспублікі Беларусь, каб адзначыць Дзень Волі. Святкаванне Дня Незалежнасці ў памяшканнях Гайнаўскага белмузея, якое праводзілася ў прошлым, было адноўлена ў мінулым годзе і прадоўжана ў гэтым. У Беластоку Беларускі саюз у РП праводзіць агульнапольскія святкаванні Дня Волі, якія ў 2005 годзе арганізаваў у Гайнаўскім доме культуры.

Першымі, бо ўжо 21 сакавіка, пачалі святкаваць Дзень Незалежнасці Беларусі вучні Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, а паглядзець «Беларускі турнір», што быў арганізаваны ў спартыўнай зале белліцэя, упрыгожанай бел-чырвона-белымі сцягамі і конкурснымі плакатамі з мінулых гадоў «Беларусь у маіх вачах», прыйшла група бельскіх белгімназістаў з суседняй «тройкі» са сваімі настаўніцамі. У Бельскім белліцэі прынялося ўжо святкаванне Дня Волі паводле выпрацаванага раней парадку.

— Мы хочам, каб нашы вучні былі свядомымі беларусамі і ведалі свае гісторыю і традыцыі, а праз святкаванні Дня Незалежнасці будуецца тоеснасць беларусаў, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў белліцэі Яўгенія Таранта.

У спартыўнай зале белліцэя спаткаліся вучні трох першых класаў, каб змагацца ў «Беларускім турніры». Іх спаборніцтвы ацэньвала турнірная камісія, якую складалі настаўнікі і старэйшыя вучні школы. Ліцэісты ўсіх першых класаў удала заспявалі школьны гімн «Люблю наш край, старонку гэту», стараліся як мага найцікавей запрэзентаваць свае класы, звяртаючы таксама ўвагу на сваіх настаўнікаў. На падрыхтаваных вучнямі плакатах «Беларусь у маіх вачах» можна было ўбачыць гістарычныя нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», але таксама цяперашнія афіцыйныя сімвалы Беларусі. Асабліва цікавымі і разнароднымі былі прэзентацыі казак на беларускай мове, калі вучні, выступаючы, пераапраналіся за розныя постаці. Турнір завяршылі спартыўныя спаборніцтвы. Пасля падвядзення вынікаў аказалася, што ў «Беларускім турніры» перамог І АЦ клас, на другім месцы апынуўся І Д клас, а трэцяе месца заняў І Б клас.

— Турнірныя спаборніцтвы гэта цікавы спосаб святкавання Дня Незалежнасці, пра які мы гаворым на ўроках у школе, — заявілі першакласніцы Іаанна Кобус і Вераніка Кардзюкевіч.

— Мы на ўроках беларускай мовы гаворым аб абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і ў сувязі з гэтым у мінулых гадах у нашай школе ладзіліся ўрачыстыя лінейкі. Мне тут падабаюцца ўсе спаборніцтвы гэтага турніру, — заявіла белгімназістка Аляксандра Зінкевіч з бельскай «тройкі», якая прыйшла на турнір разам са сваімі школьнымі сябрамі і настаўніцамі.

— Ужо прынялося, што вучні бельскай «тройкі» прыходзяць у спартыўную залу белліцэя, каб паглядзець турнірныя змаганні іх старэйшых сяброў. Відаць, што вучні многа рыхтаваліся да выступаў перад сваімі сябрамі, запрэзентаваліся, як сапраўдныя акцёры і падрыхтавалі цікавыя сцэнічныя афармленні. У гэтым годзе мы хочам спалучыць святкаванне Дня Незалежнасці Беларусі з нашым школьным святам, якое будзем адзначаць пазней, — сказалі настаўніцы беларускай і польскай моў з бельскай «тройкі» Мірaслава Вароньская і Аліна Банькоўская.

Пасля завяршэння турніру настаўнікі перайшлі на другі паверх школы, дзе прэзентаваліся багата ўпрыгожаныя сталы з беларускімі нацыянальнымі стравамі. Вучні паасобных другіх класаў з дапамогай сваіх бацькоў і бабуль рыхтавалі дома розныя стравы, а ў школе стараліся як мага найлепш упрыгожыць сталы свайго класа. Вучні ІІ АЦ класа збоку сталоў павесілі літкі нашага тыднёвіка «Ніва».

— Мы хацелі паказаць, што чытанне «Нівы», гэта школьная традыцыя, — заявілі вучні ІІ АЦ класа, якія, упрыгожваючы сталы, выканалі таксама бел-чырвона-белыя кампазіцыі.

— Мы тут можам спакойна святкаваць Дзень Незалежнасці Беларусі, а ў Рэспубліцы Беларусь забараняюцца такія святкаванні і не дазваляецца карыстацца беларускімі нацыянальнымі сімваламі, бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня». Уваткнуўшы бел-чырвона-белыя сцяжкі ў нашы нацыянальныя беларускія стравы, мы выказваем салідарнасць з жыхарамі Беларусі, якія святкуюць Дзень Волі пад бел-чырвона-белымі сцягамі, — сказалі вучні ІІ Д класа.

Белліцэісты ІІ Б класа ў сваю чаргу запрэзентавалі прыгожы стол і разнародныя беларускія стравы. Дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк, які ўзначаліў працу камісіі, што ацэньвала смак і выгляд страў, а таксама выгляд сталоў, паінфармаваў, што ўсе тры другія класы занялі раўнапраўныя першыя месцы.

У апошні працоўны дзень тыдня, 24 сакавіка, Дзень Волі святочна і з выкарыстаннем бел-чырвона-белай сімволікі адзначылі вучні Комплексу школ з датковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Спачатку гайнаўскія белгімназісты спаткаліся ў актавай зале, дзе адбыўся беларускі турнір «Юны беларусавед». Вучні, стоячы выслухалі беларускі гістарычны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а галоўны арганізатар сустрэчы, настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі распавёў пра гістарычныя падзеі, якія давялі да абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года незалежнасці Беларусі і стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Прадстаўнікі ад шасці класаў белгімназіі селі за сталы і адказвалі на турнірныя пытанні, якія падрыхтаваў і ставіў вучням настаўнік Ян Карчэўскі. Слухалі адказаў усе белгімназісты, іх настаўнікі і дырэктар школы Яўген Сачко, які разам з віцэ-дырэктар Нінай Лукасік быў таксама на святкаванні белліцэістаў. Вучні ўдала спраўляліся з пытаннямі па беларускай літаратуры, культуры, гісторыі, ці сучасным жыцці ў Беларусі і жыцці беларусаў Беласточчыны.

— Мы рады, што добра справіліся з пытаннямі і занялі ў турніры першае месца, — заявіла вучаніца ІІ Б класа Дар'я Місяюк і дабавіла, што калі год таму святкаваўся Дзень Волі, тады яе першы клас у беларускім турніры таксама заняў першае месца.

Другое месца ў турніры заняў І А клас, а трэцяе — ІІІ А.

— Ва ўрачыстых абставінах мы святкуем Дзень Незалежнасці Беларусі. Гімн і інфармацыя аб Беларускай Народнай Рэспубліцы ўвялі нас у святочны настрой, а беларускі турнір быў праверкай нашых ведаў, — гаварылі белгімназісты.

— Вучні знаёмяцца з гістарычнымі падзеямі 1918 года і абвяшчэннем БНР на ўроках, а тут папаўняюцца гэтыя веды. Сёння з дакладам пра гістарычныя падзеі 99-гадовай даўнасці меў перад ліцэістамі выступіць прафесар Алег Латышонак, але па асабістых прычынах не змог даехаць да нас, — сказаў настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі.

Гайнаўскія белліцэісты таксама спаткаліся ў гэты дзень у актавай зале, дзе выслухалі два беларускія гімны: з магнітафона — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а ў выкананні беларускага школьнага калектыву «Знічка» — «Магутны Божа». На асаблівую пахвалу заслужылі музычны кіраўнік «Знічкі» Бажэна Вінцонак і яе вучні з вакальнага калектыву, якія развучылі патрыятычныя песні «Магутны Божа», «Пагоня», «Сцяг», «У гушчарах», «Гэта Беларусь» і займальна запрэзентаваліся з патрыятычнай музычнай праграмай перад сваімі сябрамі і настаўнікамі на Дзень Волі.

— Трэба святкаваць Дзень Незалежнасці, бо ў 1918 годзе стваралася наша беларуская незалежная дзяржава. Мне вельмі падабаецца творчасць Максіма Багдановіча і таму я рада, што будуць чытацца яго тэксты, — сказала Анна Бяляўская, а яе сяброўкі пахвалілі агульнашкольныя святкаванні Дня Незалежнасці.

Настаўніца беларускай мовы і метадыст па справах навучання беларускай мовы Яланта Грыгарук прыблізіла ідэю стварэння беларускай незалежнай дзяржавы ў 1918 годзе, распавяла пра падзеі гэтага перыяду на беларускіх землях. Белліцэісты ў сваю чаргу чыталі прозу Максіма Багдановіча з патрыятычным зместам, выслухалі заклікі беларускага паэта шанаваць сваю мову і нацыю, якія з'яўляюцца актуальнымі і ў цяперашні час.

— Добра, што святкуем Дзень Незалежнасці Беларусі, бо трэба ведаць і шанаваць нашу гісторыю, — гаварылі Наталля Мусюк, Іаанна Раманюк і Наталля Васько з беларускага калектыву «Знічка».

25 сакавіка, роўна 99 гадоў пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, у кіназале Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы спаткаліся беларусы, каб святкаваць Дзень Волі.

— Мы з Яўгенам Янчуком і Лукашом Плевай у мінулым годзе аднавілі святкаванне Дня Волі ў Гайнаўцы і прадаўжаем яго ў гэтым годзе. Другі раз атрымалі мы магчымасць арганізаваць святкаванне ў памяшканнях Гайнаўскага белмузея. Знайшліся спонсары, якія дапамаглі рэалізаваць нашу задуму. У гэтым годзе мы выходзім па-за прастору нашай краіны, бо сёння ў белмузеі выступаюць госці з Рэспублікі Беларусь. Нашу ідэю падтрымалі «ВАША НІВА — першая беларуская газета не на паперы», тэлеканал «Белсат», Беларускае Радыё Рацыя, Тыднёвік беларусаў у Польшчы «Ніва» і «Хранатоп — Фонд Сундук». Гэтыя беларускія СМІ паказваюць жыццё беларусаў і так, як і ў мінулым годзе, мы зрабілі стаўку на прэзентаванне разнароднасці беларускай культуры, — сказаў Хрыстафор Ангельчык.


Асаблівай пахвалы заслужылі музычны кіраўнік «Знічкі» Бажэна Вінцонак і яе вучні з вакальнага калектыву, якія запрэзентаваліся з патрыятычнай музычнай праграмай


Вучні ІІ АЦ класа, бельскага белліцэя упрыгожваючы сталы, выканалі бел-чырвона-белыя кампазіцыі

працяг ☞ 10

## Вербніца

10 красавіка 2017 года пачынаецца Вялікі тыдзень — апошні тыдзень Вялікага посту. У перадвелікодную нядзелю адзначаем уезд Госпада Ісуса ў Ерусалім і на памятку гэтага здарэння падчас набажэнства пасвячаюцца пальмы — вярбовыя галінкі. У народзе свята называюць Пальмавай або Вербнай нядзеляй — Вербніцай (сёлета 9 красавіка).

У Евангеллі паведамляецца, што калі Ісус ішоў у Іерусалім, вучні прывялі Яму асліцу і маладога асла, паклалі на іх сваё адзенне і Ісус сеў на асла. Калі Ён пад'язджаў да Іерусаліма, мноства народу выйшла Яму насустрач. Перад Ім людзі рассцілалі сваё адзенне і пальмавыя галінкі з воклічам: „Асанна сыну Давідаву! Блаславёны Той, хто ідзе ў імя Гасподняе! Асанна ў вышніх". Калі Ісус увайшоў у Іерусалім, горад ускалыхнуўся і ўсе пачалі пра Яго пытацца: „Хто Ён?". Тыя, што Яго ўслаўлялі, адказвалі: „Гэта Ісус, прарок з Назарэта-Галілейскага".

Звычай свяціць пальмы прыйшоў да нас з Захаду ў сярэдневякоўі, а пальмавыя галінкі замянілі вярбовымі, малінавымі або парэчкавымі, якія ў час Вялікага посту зрэзвалі і ставілі ў збаны з вадою, каб развіліся і расцвілі.

Асвячоныя вярбовыя галінкі людзі трымалі за іконамі. З надыходам зімы або перад чарговым Вялікаднем іх спальвалі (асвячоных прадметаў нельга выкідаць на сметнік). Даўней пускалі на ваду ракі.

Сёння, асабліва ў гарадах, пальмы можна купіць на базарах, а робяць іх з засушаных кветак, часта штучных, з пафарбаваных сцяблінак траў. Такія пальмы трымаюць у вазонах, нават па некалькі гадоў, а калі пыл прыхавае іх хараство, вандруюць яны ў... сметнік.

Цягам стагоддзяў асвячоным пальмам прыдаваліся магічныя ўласцівасці. Распушчаныя пупышкі лічыліся сімвалам пладавітасці, сілы, маладосці. Людзі сцябалі адзін аднаго галінкамі, прыгаворваючы: „Вэрба б'е, нэ заб'е, за тыждэнь Вэлікдэнь..." ды жадалі сабе поспехаў і багацця. Глыталі таксама пупышкі, якія мелі прадухіляць галаўныя болі, хваробы дыхальных шляхоў і лёгкіх. Асвячоныя галінкі прымяняліся для замовы навальніцы, акурвалі імі жанчын у час родаў ды хворую жывёлу. Верылі, што яны ахоўваюць ад маланкі, пажару і іншай небяспекі. У велікодны панядзелак асвячалі імі палі. Калі вясною ўпершыню выганялі дабытак на пашу, сцябалі яго пальмай, каб не хварэла ўлетку. Ва ўсіх гэтых звычаях гучыць рэха старажытных, яшчэ дахрысціянскіх, забабонаў.

*Міхал МІНЦЭВІЧ*

# Найлепшая кніга — пра забытых бежанцаў

**Узнагарода за найлепшую кнігу 2016 года была ўручана аўтару 24 сакавіка ў Цэнтры імя Людвіка Заменгофа ў Беластоку. Літаратурнай прэміяй прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага (сёлета XXVI выпуск) адзначаюцца творцы, звязаныя з горадам Беластокам або рэгіёнам, якіх кніга тычыцца, або была тут выдадзена. Патрон прэміі — памерлы ў 1989 годзе выдатны паэт, празаік, журналіст і аніматар культуры.**



Анэта Прымака-Онішк з галоўным прызам

Як сказаў у час цырымоніі ўзнагароджання прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі, гэта быў «вялікі дзень для беластоцкай літаратуры». Адзначыў, што сёлетнімі намінантамі (чатырох з ліку 22 кніг) былі вельмі розныя аўтары, і «такая сумесь выклікае радасць ад таго, што ў нас ёсць такое багацце, і гэты вечар становіцца сапраўднай бяседай».

Прыз імя Казанэцкага «за піянерскую распрацоўку тэмы бежанства і выдатны гістарычны рэпартаж, які спалучае ў сабе мясцовую перспектыву з універсальным вопытам выгнання» атрымала Анэта Прымака-Онішк за кнігу «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы». Гэта аповед пра бежанства — масавыя ўцёкі жыхароў у асноўным праваслаўных (але не толькі) летам і ранняй восенню 1915 года перад наступам нямецкай арміі, і вяртанне жывых на радзіму. Выгнанне ў найбольшай ступені ахапіла тэрыторыю цяперашняй усходняй Польшчы і заходняй Беларусі і Украіны. Аўтарка гістарычнага рэпартажу даходзіць да гісторыі бежанцаў і іх сем'яў, вяртае іх у памяць людзей, у сапраўдную гісторыю. Старшыня капітула ўзнагароды Марэк Каханоўскі сказаў, што кніга Анэты Прымакі-Онішк была намінавана «не толькі як аповед аб страце, але таксама за цудоўны і прыгожы, але і жахлівы ўрок, які аўтарка дала ў гэтым зменлівым, непрадказальным сённяшнім свеце».

Анэта Прымака-Онішк, родам з Кнышэвіч на Сакольшчыне, атрымліваючы ўзнагароду сказала, што гэта ёсць для яе «надзвычайна важная ўзнагарода», таму што яна тутэйшая. Адзначыла, што гэта яе першая, вельмі асабістая кніга, паколькі таксама апісвае сваю сямейную гісторыю.

Яна зрабіла — як казала — вар'яцкую рэч. Напісала кнігу, не ведаючы, ці схоча яе выпусціць выдавецтва «Czarne». Хаця паяўляліся ўжо кнігі і зборнікі на тэму бежанства праваслаўных жыхароў на ўсход у час Першай сусветнай вайны, між іншым выдадзеныя «Нівай», кніга Анэты Прымакі-Онішк вярнула іх тэму, іхняе жыццё з небыцця і бяспамяцтва. Аказалася, у сучасным свеце гэтая тэма вельмі актуальная. Першапачаткова пісала для сябе, запісвала аповеды нашчадкаў бежанцаў, давала дзеля доступу ў пашыраючыся партал biezenstwo.pl, а праз некалькі гадоў яе зборы і думкі ператварыліся ў кнігу.

— Бежанцы ўцякалі ў паніцы і страху, а тыя, хто чуў, што ідуць да іх бежанцы, таксама баяліся. Калі глядзець на бежанства з пункту гледжання гісторыі, можаце ўбачыць, як многа з сучасных страхаў актуальныя былі сто гадоў таму. На самой справе, мадэль уцекача, выгнанніка носіць універсальны характар. Тэма бежанства закранае глыбока нават сённяшніх жыхароў Беласточчыны — гэта наша агульная гісторыя, гісторыя памежжа, Падляшша, толькі ў мінулы час адсунутая глыбока. Як жа яна ўплывае на нас і ўносіць свой уклад у ідэнтычнасць сучаснай Беласточчыны. Мая кніга гэта рэпартаж, і першая публікацыя на гэтую тэму выпушчаная агульнапольскім выдавецтвам...

... Маю ўражанне, што за апошнія 100 гадоў, ад часу бежанства, дзесьці назапасілася столькі добрай энергіі, што яна, гэтая кніга, павінна была ўзнікнуць, — сказала пераможца і звярнулася да Тых, каго няма, і тых, хто ёсць: — У гэтай узнагародзе і Ваша цаглінка! Таму гэта і Ваша ўзнагарода! Часам гэта была падтрымка родных і блізкіх, а часам дапамога ад чужых людзей, а часам проста ўдача. Я зазнала многа з іх на працягу чатырох гадоў працы над «Бежанствам 1915». Адна мая сяброўка неяк сказала, што, мабыць, бабуля Надзя, дзедка Сяргей, мой тата і ўсе тыя сваякі дзесьці там у небе сабраліся і вырашылі, каб дапамагчы мне. Сабралася ў патойбаковым свеце вялікая група бежанцаў — было ж іх некалькі мільёнаў, па меншай меры часткі з іх павінна было залежаць на тым, каб іх гісторыя не прапала. І ўзяліся за работу. Дзе кожны мог. Кожны сваіх зямных нашчадкаў. І не толькі сярод іх. Я адчувала гэтую дапамогу, калі на пачатку сваёй працы ішла да даследчыкаў бежанства, гісторыкаў і энтузіястаў, журналістаў, якія разбіраліся ў тэме, і атрымлівала ад іх кнігі, сканы матэрыялаў, падказкі. Калі людзі адчынялі дзверы сваіх дамоў і дзяліліся са мною сямейнымі гісторыямі. Калі, ужо пасля таго як адкрыла я сайт bieżeństwo.pl, паплылі да мяне ўспаміны, фотаздымкі, спасылкі, цёплыя словы. Або калі мая сяброўка ішла на бізнесаўскую сустрэчу, а неспадзявана выходзіла з рукапісам бежанскіх успамінаў... Ці калі я, стомленая ад бібліятэчнай працы, хадзіла паміж паліцамі і раптам выцягвала кнігу з інтрыгуючай вокладкай, якая аказвалася быць невядомай, вельмі натхняльнай крыніцай. Ці калі сябры арганізавалі скрыншот на маю паездку ў Санкт-Пецярбург, а іншыя знаходзілі начлег амаль за бесцань... Або давалі прытулак у сваёй майстэрні, каб я магла пісаць у спакоі... Доўгі час магла б пералічваць тое шанцаванне.

Я не дамаглася б поспеху без Вашай дапамогі. Тых, на нябёсах, і тых тут, на зямлі. Таму, давайце цешыцца ад таго, што кніга нашых успамінаў узнагароджана прэстыжнай узнагародай.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

2 ☞ працяг

# АКТ 25 САКАВІКА

будуць мець месца ў беларускай дзяржаве, дык радасць і ранг юбілею ўзрасце неверагодна.

Тады для нас, беларусаў Беласточчыны, не менш важным будзе тое, каб святкаванні Акту 25 Сакавіка пашыраліся сярод дзяцей і моладзі. Надта важнай справай для нас было б, каб, ідучы за прыкладам іншых нацыянальных меншасцей, у сваіх родных мясцовасцях самаўрадаўцы з беларускіх гмін і паветаў прагаласавалі ўсё ж такі за двухмоўныя ўказальнікамі.Такім чынам наша, шматвяковая прысутнасць на гэтай зямлі прыняла б і відочнае, вонкавае выяўленне. Гэта было б актам нацыянальнай спеласці і фактычным доказам беларускай адказнасці за лёс і будучыню нашых „малых айчын". Лёс нашай меншасці залежыць перш за ўсё ад таго, як нашы лякальныя палітыкі, кшталту войтаў, бургамістраў, старастаў захочуць супольна працаваць таксама і ў карысць беларускасці сваіх выбаршчыкаў. Калі не будзе нас тут, беларусаў, тады не будзе каму іх выбіраць. Праз год чарговыя, самаўрадавыя выбары. Лічу важным сёння выказаць думку і патрэбу, што менавіта нашы, незалежныя, выбарчыя камітэты на трывала павінны з'явіцца праз год у падляшскай прасторы. У сітуацыі польска-польскага палітычнага закалоту і скарыстоўвання нас толькі ў ролі статыстаў і выбарчага мяса, наша адказнасць за сённяшні дзень і будучыню патрабуе ад нас таксама самастойнай актыўнасці на грамадска-выбарчай ніве. Ад гэтай адказнасці мы не можам ухіляцца і тлумачыць усё звышнеспрыяльнымі нам абставінамі. Тое, што мы павінны зараз жа зрабіць, робім для самой надзейнай справы, у якую верым: што мы, беларусы Беласточчыны, былі тут і будзем надалей.

Няхай заўсёды дзень 25 Сакавіка будзе днём беларускай годнасці і згоды.

А нашы святкаванні ёсць таксама падзякай тым, хто ў штодзённай працы за беларускасць ахвяраваў самім сабою. Мы з гэтага месца ім усім дзякуем і памятаем пра мінулае дзеля будучыні. Нашая аб'яднанасць патрэбная таксама ў кантэксце і патрэбе выразнага становішча і адпору наконт фальшавання гістарычных падзей першых пасляваенных гадоў на Беласточчыне. Новая гістарычная канцэпцыя, распрацоўваная некаторымі польскімі палітычнымі сіламі і дзяржаўнымі ўстановамі наконт пацыфікацыі беларускіх вёсак Падляшша вядзе да кляймавання нявінна загінулых людзей, якіх адзінай віной было толькі тое, што былі праваслаўнымі беларусамі. Хачу падзякаваць тут усім тым, хто абараняе памяць нашых продкаў і адначасна гістарычную праўду, нягледзячы на зняважлівасць і агрэсію розных асоб і структур з боку польскай большасці.

Год таму назад, завяршаючы сваё выступленне, сказаў я наступныя словы:

„Нашым і наступным пакаленням напэўна будзе служыць планаванае, дзякуючы ініцыятыве аб'яднання „АББА", а напісанае сябрамі Беларускага гістарычнага таварыства, выданне падручніка па гісторыі беларусаў Падляшша. Напэўна ў гэтай працы знойдуцца і радкі, прысвечаныя ўдзелу беларусаў Беласточчыны ў час абвяшчэння Акту 25 сакавіка 1918 года і змагання за яго ажыццяўленне". Сёння будзем маглі менавіта ўпершыню пазнаёміцца з гэтым выданнем, якое для нас напэўна стане нацыянальным апірышчам і інтэлектуальнай дапамогай у захаванні нацыянальнай тоеснасці.

Таму трэба верыць, што праз год святкаванне стагоддзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі будзем адзначаць годна і радасна.

Жыве Беларусь!

**Яўген ВАПА**

Выступленне з нагоды 99-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў час святкаванняў у Беластоку 25 сакавіка 2017 года.

# Тэрапія тэатрам



■ Злева: Агнешка Андрэюк і Іаанна Стэльмашук-Троц

**Група з Гайнаўкі апынулася сярод пяці найлепшых тэатральных гуртоў на XVII конкурсе «Альбэртыяна». «Альбэртыяна» — Фестываль тэатральна-музычнай творчасці асоб з абмежаванымі магчымасцямі. Сёлета ў мерапрыемстве прынялі ўдзел таксама акцёры-аматары з Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы. Гэта вынік працы тэрапеўткі Агнешкі Андрэюк і акцёркі Іаанны Стэльмашук-Троц, але перш за ўсё гайнавян, дзякуючы якім на вялікай сцэне тэатра імя Юльюша Славацкага ў Кракаве быў паказны спектакль на аснове казкі «Зязюлька» Мікалая Гайдука.**

На шляху рэгіянальных адбораў да фіналу «Альбертыяны» праходзіць пяць тэатральных груп. Пераможцы выступаюць на ўрачыстым паказе, які праходзіць на галоўнай сцэне тэатра імя Юльюша Славацкага ў Кракаве. Сёлета, дзякуючы акцёрцы і рэжысёрцы Іаанне Стэльмашук-Троц, у тым жа месцы група з Гайнаўкі выступіла са спектаклем на аснове казкі «Зязюлька» Мікалая Гайдука з кніжкі «Аб чым шуміць Белавежская пушча». Выбар твора беларускага пісьменніка не быў выпадковы.

— Менавіта гэтая казка мне вельмі спадабалася, — кажа Іаанна Стэльмашук-Троц. — Яна расказвае аб тым, што дарослыя дзеці хочуць жыць самастойна, хочуць быць незалежнымі, а бацькі часта не дазваляюць на гэта. Вядома, бацькі адказныя за сваіх дзяцей, тым больш калі такое дзіця з абмежаванымі магчымасцямі. Аднак тыя людзі таксама маюць свае мары, жаданні, яны таксама хочуць мець сваіх дзяцей, яны хочуць кахаць. Гэта, здавалася б, такія простыя справы, аднак у гэтым выпадку становяцца яны праблемай. Гэтым спектаклем мы аб гэтым гаворым.

Майстэрня працатэрапіі ў Гайнаўцы гэта месца дзённай рэабілітацыі для дарослых асоб з абмежаванымі магчымасцямі. Асяродак паўстаў у 2004 годзе пры Свята-Троіцкім прыходзе. Яе кіраўніком з'яўляецца Міхал Байко, які запрасіў Іаанну Стэльмашук-Троц да супрацоўніцтва. Для самой акцёркі гэта быў чарговы прафесійны выклік.

— Цягам паўгода мы сустракаліся на супольных занятках, — кажа Іаанна Стэльмашук-Троц. — Я ніколі не працавала з асобамі з абмежаванымі магчымасцямі. Аднак аказалася, што яны хочуць штосьці рабіць, яны слухаюць, яны цярплівыя. Проста трэба было шукаць слоў... дайсці іншай дарогай. Эфект меў быць такі ж, як у выпадку працы са здаровымі людзьмі, спектакль. Гэта атрымалася.

У час майстар-класаў, якія вяла Іаанна Стэльмашук-Троц, прысутная заўсёды была музыкатэрапеўтка Агнешка Андрэюк. Менавіта яна вырашыла пасласць заяўку на «Альбэртыяну».

— Агнешка прыдумала, каб заявіць спектакль на конкурс, — кажа Іаанна Стэльмашук-Троц. — Мы зрабілі кароценькі фільм, паслалі яго, перайшлі адборы, паехалі далей... Ажно аказалася, што мы апынуліся сярод самых лепшых.

А варта дадаць, што канкурэнцыя была немалая. Штогод у мерапрыемстве ўдзельнічае каля тысячы асоб. Ініцыяткай «Албэртыяны» з'яўляецца выдатная польская акцёрка Анна Дымна, якая супольна з кс. Тадэвушам Ісаковічам-Залескім (старшыня Фонду імя брата Альберта) у 2001 годзе пачалі ладзіць тэатральнае свята для людзей з абмежаванымі магчымасцямі. А сёлета між іншым група з Гайнаўкі апынулася ў пяцёрцы найлепшых. У Кракаў завезлі спектакль падрыхтаваны Іааннай Стэльмашук-Троц на аснове казкі Мікалая Гайдука, які за такую прамоцыю сваёй творчасці напэўна быў бы ўдзячны.

❖Уршуля ШУБЗДА

## Трансгранічныя праекты Сакольскага павета ў другім этапе конкурсу

Трансгранічныя праекты Сакольскага павета перайшлі да другога этапу конкурсу. Камісія адбору праектаў праграмы «Польшча — Беларусь — Украіна 2014-2020» з агульнага ліку 352 прапаноў выбрала 162. Сярод іх ёсць і тыя, пададзеныя сакольскімі гмінамі.

Усе праекты пададзеныя Сакольскай гмінай перайшлі першы этап адбору. Усе яны тычацца супрацоўніцтва з суседняй Гародняй.

— У гэты момант далікатна цешымся, бо гэта яшчэ толькі першы этап. Аднак канкурэнцыя была велізарная, — кажа бургамістр Саколкі Эва Кулікоўская. — Прайшлі да наступнага этапу два нашы праекты: «Шлях Тызенгаўза» і супольны праект з Гароднят «Два азёры» (Сакольскае вадасховішча і возера Юбілейнае). Дадаткова прайшоў яшчэ і трэці праект разам з Гароднай, але ён быў падрыхтаваны не гарадской управай, а Сакольскім водаканалам: гэта помпавыя станцыі.

Мясцовыя органы ўлады, якія чакаюць фінансавання, да канца чэрвеня павінны прадставіць поўныя прапановы. Між іншым, з мэтай канчатковага абмеркавання праектаў Эва Кулікоўская на мінулым тыдні нанесла візіт у Гародню, дзе сустрэлася з прадстаўнікамі гарадзенскіх улад.

Да другога этапу конкурсу прайшоў праект Карыцінскай гміны, які супольна з раённым цэнтрам Вілейка прадугледжвае наладжанне бліжэйшага культурнага супрацоўніцтва. Аб гэтым праекце падрабязна мы пісалі два тыдні таму («Ніва» № 12 ад 19.03.2017). Іншыя трансгранічныя праекты гмін Сакольскага павета, якія прайшлі ў другі этап конкурсу, гэта ахова прыроднай спадчыны і прамоцыя гмін Кузніца і Бяроза, праз супольныя ініцыятывы на прыгранічным абшары. Дуброва Беластоцкая прапануе пашырэнне культурнага супрацоўніцтва з Гароднян — у планах будова новай сядзібы асяродка культуры ў Дуброве. Крынкі плануюць «Гістарычны каралеўскі тракт», які вяртаў бы памяць супольных падзей Крынак і Гародні.

Вельмі цікавы трансгранічны праект Сухавольскай гміны таксама перайшоў у другі этап. Тычыцца ён трансгранічнага птушынага шляху і аховы Бахмацкіх багнаў. Цяперашні бургамістр Сухаволі па адукацыі біёлаг. Менавіта ён ды ягоны сябра Марыюш Сілаўкоўскі (старшыня Майстэрні жывой архітэктуры) папулярызавалі выключнасць Бахмацкіх багнаў. У ваколіцы вёскі Бахмацкае знаходзіцца невялікае возера Юрдыга. Менавіта тут штогод спыняюцца такія птушкі як белыя чаплі ці свістуны, занесеныя ў Чырвоную кнігу.

Гэта першы з трох этапаў адбору, але кіраўнікі гмін спадзяюцца, што ўдасца ім рэалізаваць праекты, часам нават за 4 мільёны злотых, дзякуючы грошам з Еўрасаюза. Нярaз падкрэслівалі, што без еўрасаюзнай падтрымкі небагатыя гміны Сакольскага павета не мелі б шанцаў на іх рэалізацыю. Я асабіста крыжую пальцы за сухавольскі праект аховы Бахмацкіх багнаў. Дзякуючы гэтаму праекту большая колькасць людзей даведалася б пра асаблівасці гэтага месца, бо, як аказваецца, пра гэты абшар студэнты спецыяльнасці па ахове прыроды Беластоцкай палітэхнікі часта пішуць магістарскія дысертацыі.

Уршуля ШУБЗДА

# Шляхецкая Вельканац



■ Бася з Бабуляй і яе рукадзелле

**Школьная бібліятэка ў Крынках выйшла з новай ініцыятывай. Разам з дырэктар Дома культуры ў Крынках Альжбетай Чарэмхай здымае фільм. Гімназіст, верны наведвальнік бібліятэкі Кацпар Ігнатовіч запрапанаваў нам кінамантаж фільма. Мантаваць любіць ён нашмат больш, чым чытаць. А яшчэ нядаўна палюбіў ён даступны ўсім у нашай бібліятэцы акардэон. Калегу штурхнуць ён можа, але акардэон — ніколі. Іграе на ім амаль на кожным перапынку. Амаль на кожным, таму што ахвотным зайграць трэба пастаяць у чарзе.**

А яшчэ ў фільмавы праект уключылася любіцельніца кніжак Бася Булатэвіч з другога класа пачатковай школы. Яна таксама пры маёй дапамозе іграе на акардэоне, а яшчэ і да клуба «Заранкі» нядаўна далучылася. Чакае свайго першага выступлення, якраз з валакальнымі песнямі. У нашым фільме таксама яны з'явяцца, таму што будзе ён распавядаць менавіта пра велікодныя традыцыі. Карацей кажучы, распавядуць пра іх найстарэйшыя жыхары наваколля.

Нашы першыя крокі з фільмавай камерай накіроўваем у вёску Кундзічы, да хаты, у якой жыве сям'я нашай Басі. Яе бабуля Марыя Яновіч 1933 года нараджэння, дзявочае прозвішча Захаровіч, стаіць з усмешкай на парозе. Чакае нас ужо некалькі дзён. Пра візіт даведалася ад сваёй унучкі. Прывітаўшыся, указвае нам дарогу ў парадны, гасцінны пакой поўны ўсякага роду сямейных памятак. Спадарыня Марыя вымае з камод абрусы, якія ўласнаручна павышывала ў каляровыя кветкі, распавядае пра святы абраз у куце — вялікую па памеры Маці Божую Ружанцовую, набытую ў 1901 годзе ў недалёкай Вялікай Бераставіцы.

— Раскажы мне нешта пра сваю бабулю, — прашу Басю.

— Яна вельмі любіць шыць, — адказвае, надумаўшыся крыху.

Ёй сапраўды пашанцавала з бабуляй, якая змалку вучыць яе старадаўніх вершыкаў і песень. Бабуля часта паўтарае надта разумную фразу: «Да адважных свет належыць» і што ўсе мы перад Богам аднолькавы. Унучка і бабуля сядзяць за сталом побач сябе. Цяпер бачу, што Бася — вылітая бабуля.

Пачынаем здымаць на камеру.

— Бабуля, — звяртаецца да яе дзяўчынка, — як ты святкавала Вельканац калі была такая як я?

— Жыла я тады ў шляхецкай аколіцы Шацілы, — адказве бабуля. — Спярша разам з бацькамі ехалі мы ў касцёл у Крынкі цэлых дванаццаць кіламетраў у адзін бок. Тата запрагаў каня. Ехаў вельмі хутка, асабліва назад. Лічылася, што хто першым вернецца з касцёла, той першым ураджай з поля звязе. Мама брала з сабой гасцінец жабракам, якія шматлюдна сядзелі пад касцёлам. Раздавала ім там, што мела і прасіла памаліцца за пакойнікаў. Цягам года яны таксама паяўляліся ў хаце. Увайшоўшы, зразу падалі на калені і маліліся.

Вярнуўшыся, сядалі за стол. Спажываючы свянцонку гаварылі: «Дай Божа другога року дачакаць». На стале стаяла шмат пірагоў, паколькі куры ўжо пачыналі несціся, заўважае спадарыня Марыя. Асабліва запамяталіся ёй вялікія бабы, печаныя ў спецыяльнай форме. Мяса таксама было пад дастаткам — усялякіх кілбас і печаных клёпсаў. Есці рыхтавалі на цэлы тыдзень.

— Пасля мама давала мне каляровыя яйкі, з якімі я бегла на вуліцу. Там з сяброўкамі і сябрамі выбіваліся гэтымі яйкамі. Пабітыя прыносілі дахаты, таму што ніхто іх есці не хацеў. У той жа вёсцы жыла мая хрышчона маці. Вельмі мне хацелася пабегчы да яе за валачобным, але мама не дазваляла. Чакала, пакуль хрышчона сама прынясе.

Так, прынесла мне чатыры курыныя яйкі і адно гусінае, — смяецца бабуля. — Гусінае зусім мне не смакавала.

На другі дзень прымалі гасцей. Прыязджалі з дзяцьмі, таму было вельмі весела. Ну і абліваліся. Але не вадой з вядра, толькі парфумай. Пры тым не па вопратцы, толькі па валасах. Мы, шляхта, стараліся ў сваіх звычаях пераймаць арыстакратыю.

Калі ідзе пра валоканне, дык шляхцюкі ніколі не валокалі а толькі прымалі валакальнікаў. Прыходзілі да нас хлопцы з суседняй Нетупы, ужо падвыпіўшы. Неслі з сабой вялікую карзіну, у якую кожная гаспадыня клала нейкую ежу. Іх песень дакладна ўжо не помню, мне больш за 84 гады. Паннам спявалі „Dobry wieczór, panieneczko, każ otworzyć okieneczko...", а ўсім астатнім „Wesoły nam dzień dziś nastał".

А яшчэ мы шмат гулялі. У нас была тоўстая кніжка з усялякімі забавамі для малодшых і старэйшых, дык мы ёю карысталіся. Але найбольш падабалася нам гульня ў памідор. Ну і, вядома, не абышлося без танцаў.

❖Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# ПРЫВІТАННЕ «ЗОРКА»!




Пішуць да Цябе вучні 6 класа Пачатковай школы ў Навакорніне.

10 сакавіка 2017 года ў нашай школе адбыліся школьныя элімінацыі конкурсу «Роднае слова». Прынялі ў іх удзел вучні II-VI класаў: Ася Адамюк, Наталля Ляўчук, Оля Сідарук, Даміініка Шварц, Зузя Асіняк, Аня Парфянюк, Дамінік Чыжэўскі, Кшысь Бяньковскі, Таццяна Парфянюк, Зося Харчэнка, Наталля Семянюк і Блажэй Шварц.

Мы дэкламавалі вершы розных беларускіх аўтараў, якіх выбралі самі з ліку запрапанаваных настаўніцай. У час конкурсу мы вельмі хваляваліся. Кожны хацеў стаць пераможцам і паехаць на раённы агляд.

Нас ацэньвала камісія, якую складалі тры настаўніцы. Яны выбралі найлепшых дэкламатараў. Сталі імі Кшысь Бяньковскі, Зося Харчэнка і Оля Сідарук.

Конкурс праходзіў у гімнастычнай зале, гледачамі былі ўсе вучні школы і настаўнікі. Пасля ўрачыстасці ўсе дэкламатары атрымалі ўзнагароды.

Навакорніна, 17.03.2017г.
Вучні 6 класа:
Дамінік Чыжэўскі, Аня Парфянюк,
Крыстыян Ґрэчан, Бартэк Мартынюк

# У Гарадку прагналі зіму!



Вучні 4 класа ПШ у Гарадку на ўроках беларускай мовы даведаліся як выглядаў абрад гукання вясны. З дапамогай каляровай вопраткі, кветак, гульняў з хусткай і матылькоў, а таксама з песнямі і вершамі прагналі зіму. І вядома, прывіталі прыгажуню вясну. Былі вясёлыя гульні, якія заклікалі ўдзельнікаў словамі: «Скакаў зайка па лузе і шукаў мяне»...

Усе дзеці вераць, што дзякуючы іх гульням і спевам вясна да на хутчэй прыйдзе.

**Оля Яроцкая,**
**Гімназія ў Гарадку.**

Адрыян ДАНІЛЮК,
КШ у Міхалове

## Падарожжа

Калі вандруеш праз краіны,
Дык аж сэрца расце,
Калі бачыш усё новае.
Цікавае падарожжа!
Я чую ў сэрцы,
Я ведаю ўсё,
Часам не ведаю, што чую,
Але бачу, і бачу ўсё!

# Вершы Віктара Шведа



## Хрэстаматыя

Татка харошы, —
Азвалася Каця, —
Дай ты мне грошы
На Божую Маці.

У школе сказалі:
- Выйшла кніжка багатая,
Мы грошы збіраем
На Хрэстаматыю.

## Мабільнік

Мама сыночка Колю
У хаце пытаецца:
- Які прадмет у школе
Табе падабаецца?

- Маю выйсці пільна,
Сябра мой чакае.
Падабаецца мабільнік,
Што настаўнік мае.

# УВАГА КОНКУРС! № 14-17

**Мяне з доміка бяруць,**
**Галавой аб сценку труць.**
**Я заўсёды разззлуюся**
**і адразу загаруся.**
**З......**
**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 16 красавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 11-17: вешалка. Узнагароды, кніжкі Міры Лукшы «Падарункі» з аўтографам, выйгралі Аляксандра Бакун, Магдалена Люнда з КШ № 1 у Гайнаўцы, Аліўка Порац з Нарвы, Магдалена Гарустовіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**



# У кожным з нас дрэмле паэт!

— Ці кожны можа быць паэтам? — паставіў пытанне Андрэй Сцепанюк, аўтар паэтычнага зборніка «Распісаны квадрат» і вядомы ўсім дырэктар Бельскага белліцэя. Ды адразу прапанаваў супольна напісаць верш. Супольны твор, прасякнуты пахам вясны, слова за словам запісаныя на табліцы, відавочна ажывіў гімназістаў. Кожны стараўся дадаць штось ад сябе, нават пані дырэктар Барбара Скепка, якая завітала на аўтарскую прэзентацыю свайго калегі.

У вершы гімназістаў, да таго прыдуманым у першы дзень вясны, не можа абысціся без кахання і чароўнай прыроды. І хоць за акном стаялі шэрыя хмары, паэт параіў, каб у вершы яны «плылі», бо тады лягчэй прыдумаць працяг. Рабочы запіс, без апошняга радка, які трэба напісаць самому ў хаце, атрымаўся рамантычным:

*За акном плывуць хмары,*
*Яны нясуць мары.*
*Я ляжу ў зялёнай траве*
*І думаю пра цябе!*
*Твае блакітныя вочы*
*Не даюць мне спаць*
*кожнай ночы.*
*У галаве сакрэтныя думкі*
...............................

Андрэй Сцепанюк назваў гэты твор вясёлай рыфмаванкай, якая падымае настрой у кампаніі. Ён сам з сяброўскіх парываў напісаў верш пра сваіх сяброў-настаўнікаў, якія па сённяшні дзень памятаюць яго. У студэнцкія часы, дакладна на сотую гадавіну смерці паэта Алеся Гаруна, ён напісаў верш «Вера», які вокамгненна заваяваў сэрцы сяброў і стаў любімай песняй у час студэнцкіх рэйдаў і вогнішчаў. Таксама ўся бельская сустрэча пачалася з вучнёўскай прэзентацыі гэтага твора.

— А што вы адчуваеце, калі чуеце, як іншыя гавораць або спяваюць песні на словы Вашых вершаў? — спыталі пазней гімназісты.

— Калі выкананне ўражвае, па спіне ходзяць дрыжыкі, — прызнаўся герой сустрэчы.

Цела — уражлівы барометр, які падказвае нам важныя паведамленні, нават калі іх не разумеем. Інэса Гапанюк, якая ў захапленні слухала аўтарскія чытанні паэта, таксама падзялілася першымі ўражаннямі і яны гаварылі больш, чым гаварылі.

— Я не ўсё разумела пра што гаворыцца ў вершы, — прызналася гімназістка. — Але калі прагучаў першы верш «З таго што было», у мяне шэрхла цела. Я адчула гэты твор на сваёй спіне. Ведаю, што верш глыбокі і вартасны, — сказала Інэса.

Яе сяброўка Юстына Саковіч, якая надта актыўна прымала ўдзел у стварэнні калектыўнай рыфмаванкі, прызналася, што цікавіцца літаратурай ды сама піша фантастыку на футурыстычныя тэмы. Пакуль свае запісы трымае ў тэлефоне і не паказвае сябрам.

— А мяне ўразіў верш пра Айчыну, — адзначыў Тамаш Астроўскі. — Гэта верш якраз на 25 Сакавіка. У ім гарачая любоў і ўвага да роднай культуры і бацькаўшчыны. Яшчэ хачу сказаць, — цягнуў Тамаш, — што сёння я нанова глядзеў на спадара Андрэя Сцепанюка. Да гэтай пары ён быў для мяне дырэктарам белліцэя, а зараз ён выдатны паэт і беларус. Я цешуся, што пайду вучыцца ў яго ліцэй і што такая файная асоба будзе маім дырэктарам.

— А сёння я зразумеў, што ў кожным з нас дрэмле паэт, — дадаў Матэвуш Сцепанюк, — што кожны можа напісаць верш. Пасля сённяшняй сустрэчы ў асобе дырэктара пабачыў я цікавага чалавека.

Сам Матэвуш яшчэ не браўся пісаць вершы, бо быў заняты навукай. Прымаў удзел у прадметных конкурсах па матэматыцы, геаграфіі і інфарматыцы ды атрымаў званне фіналіста конкурсу па матэматыцы. Сустрэча з паэзіяй здалася яму чыстым захапленнем, так як з любімай матэматыкай. Хто ведае, можа сам пачне пісаць вершы!

— Але з такім прозвішчам я баюся спаборнічаць са спадаром дырэктарам, — пажартаваў Матэвуш.

Усе думкі гімназістаў былі жывым адлюстраваннем пачуццяў і ўражанняў ад паэтычнай сустрэчы. Сам Андрэй Сцепанюк, як выдатны настаўнік беларускай мовы, з ходу заваяваў увагу вучняў. За гэта ён атрымаў гучныя апладысменты.

Аўтарская сустрэча з Андрэем Сцепанюком адбылася 20 сакавіка ў бельскай «тройцы». Прыдумала яе і арганізавала настаўніца Валянціна Бабулевіч. Хоць кніжка не была простай, яна верыла ў паспяховасць ідэі. Як прызналася, сама прагнула «Распісаны квадрат» на адным дыху. Не менш уразілі дызайн і афармленне кніжкі, якую складалі мастакі Павел Грэсь і Юрка Асеннік.

**Фота і тэкст Ганны Кандрацюк**

Андрэй Сцепанюк

## Вера

**На сотую гадавіну з дня нараджэння Алеся Гаруна**

Не плач, Айчына, вялікі Бог
магіл тваіх палечыць раны
і зноў на твой святы парог
прыйдуць Алесі, Цішкі ды Іваны.

А ты як маці прымеш іх
і зноў абнімеш сваім лонам,
яны з крывавых горкіх слёз
дадуць жыццё тваім законам.

І будзе свята, будзе баль,
зноў кліч Пагоні дзесь над намі,
няхай жыве наш карнавал,
наш беларускі пад сцягамі.

Няхай у свет ляціць прывет
усім народам у свабодзе,
ад шчырай нашае душы
заўсёды будзем жыць у згодзе.

Айчына-маці, яшчэ раз
крыжоў тваіх праўжыць не хачу,
таму з прысягай на руках
сто раз цалую твае вочы.

# Польска-беларуская крыжаванка № 14-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 10-17:**

Слых, фота, клей, смайлік, сам, сноб, Ян, дух, клака. Суп, сук, кмен, ода, фейсбук, войт, імя, парк, нос.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Наталля Карнілюк** з Арэшкава, **Іаанна Нікіцюк, Марыя Кардзюкевіч** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Аляксандра Бакун** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Міхал Тапалянскі, Тамаш Ваўранюк** з Нарвы, **Зузана Асіняк** з Новага Корніна, **Іван Карсунскі** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Габрыеля Карбоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Gardło / Wiosna | | | | | Błyskawica |
| Szlak / Jabłoń | | | Oto / Wiąz | | | Grom / Bok | | | |
| | | Jar / Wierzba | | | | | | Dom / Jan | |
| | Lakier / Wiosło | | | | | | Oda / Jał | | |
| | | Znak | | | | | Bierz | | |
| | Chińskie imię | | Płeć | | Bierz | Jaś | | | |
| | | | | | | Sęk | | | |
| | Kaczeniec | | | | | | | | |

# Конкурс па беларускай мове

**Раней прадметныя конкурсы па беларускай мове для вучняў падставовых школ і гімназій былі арганізаваны ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім, а ў гэтым годзе адбыліся яны ў суседнім Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча. 17 сакавіка ў ваяводскіх адборачных спаборніцтвах да Прадметнага конкурсу па беларускай мове для гімназістаў прыняло ўдзел 26 асоб з васьмі гімназій. Конкурс у спартыўнай зале адкрыў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк. Працу конкурснай камісіі ўзначаліла настаўніца беларускай мовы ў белліцэі Яўгенія Таранта.**



— У мінулых гадах нашу спартыўную залу мы давалі ў карыстанне для «тройкі», у якой былі арганізаваны прадметныя конкурсы. У гэтым годзе Куратория запрапанавала нашаму ліцэю арганізаваць конкурсы па беларускай мове для вучняў пачатковых школ і гімназій. Я запрапанаваў Куратарыі настаўнікаў для конкурснай камісіі. У нас рыхтаваліся пытанні да конкурснага тэсту. На сайце нашай школы будуць абвешчаны вынікі ваяводскіх адборачных спаборніцтваў. Лаўрэаты гімназічнага конкурсу прымаюцца на вучобу ў выбраныя імі звышгімназічныя школы па-за конкурсам. У фіналістаў ужо меншыя прывілеі і для іх падчас прыёму паасобныя звышгімназічныя школы могуць даваць дадатковыя балы, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк.

Да раённых адборачных спаборніцтваў па беларускай мове прыступілі 53 гімназісты, з ліку якіх на ваяводскі этап перайшлі 26 асоб. Каб стаць лаўрэатам прадметнага конкурсу па беларускай мове гімназістам трэба было набраць прынамсі 90% ад магчымых да здабыцця 75 балаў. Усе вучні, якія здабылі менш балаў, сталі фіналістамі конкурсу. Гімназістам трэба было на працягу 90 хвілін справіцца з 13 адкрытымі задачамі па беларускай літаратуры, гісторыі і граматыцы. Першай закончыла пісаць тэст вучаніца Гайнаўскай белгімназіі Караліна Палікатус, а другім са спартыўнай залы белліцэя выйшаў бельскі белгімназіст Максім Фіёнік. Гаварылі яны, што тэст не быў лёгкім, але і не асабліва складаным.

— Сёлета тэст быў больш складаным, чым у мінулым годзе. Думаю, што справілася я з перакладам на беларускую мову. Аднак трэба было зрабіць практыкаванні па займенніках і лічэбніках, а таксама падабраць сінонімы. Больш складанымі былі задачы па літаратуры, напрыклад на аснове фрагмента «Новай зямлі» Якуба Коласа. Трэба было таксама напісаць чаму Беларусь з'яўляецца лагоднай на падставе фрагмента тэксту Тадэвуша Канвіцкага пра Беларусь. Пытанні адносна верша Петруся Броўкі «Сляды» не былі складанымі, але адказваючы на іх трэба было карыстацца развітымі сказамі і звяртаць увагу, каб не зрабіць памылак, — распавяла Караліна Палікатус.

— Тэст быў лёгкім і адначасна складаным. Мне лёгкімі паказаліся практыкаванні па граматыцы, а больш складанымі былі пытанні па літаратуры. Мы таксама паўтаралі веды па гісторыі і культуры Беларусі і нашы веды зараз шырэйшыя, чым у вучняў, якія ў конкурсе не ўдзельнічалі. Я, пачынаючы з пачатковай школы, пяты раз прыступіў да прадметнага конкурсу па беларускай мове. У нашай бельскай «тройцы» многа вучняў прымае ўдзел у прадметных конкурсах, між іншым таму, што атрыманне звання лаўрэата прадметнага конкурсу дазваляе атрымаць стыпендыю ад бургамістра горада з ніжэйшым сярэднім ацэнак, чым трэба было б мець гэтае сярэдняе без звання лаўрэата. Кожны вучань хацеў бы стаць стыпендыятам і атрымліваць 100 злотых кожны месяц, — сказаў Максім Фіёнік, які быў стыпендыятам маршалка Падляшскага ваяводства. Толькі ён і Марцін Алексяюк з Гімназіі ў Чыжах былі ў ваяводскіх адборачных спаборніцтвах прадстаўнікамі ад мужчын.

— Калі нехта салідна рыхтаваўся да конкурсу, то тэст не быў складаным. Мы ў школе займаліся на дадатковых занятках. Я пяты раз змагалася з тэстам прадметнага конкурсу па беларускай мове, то мне было лягчэй, але больш складанымі аказаліся пытанні аб бежанстве, — заявіла Вераніка Кардзюкевіч з Непублічнай гімназіі свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

Сяброўка Веранікі з гэтай жа школы Аляксандра Салавянюк дабавіла, што старалася сваімі словамі распавесці пра бежанства, трымаючыся канкрэтных пытанняў.

— Я патлумачыла, што слова бежанства ўзнікла ад слова бегчы, уцякаць, але трэба было яшчэ напісаць хто дапамагаў бежанцам і як склаўся іх лёс. Я перш за ўсё напісала, што нашы продкі мусілі ўсё пакінуць дома і ўцякаць перад немцамі, — удакладніла Аляксандра Салавянюк.

— Тэст не быў складаным, але вучні маглі рабіць памылкі па граматыцы, ці па іншых адкрытых пытаннях. Трэба было выканаць заданні на падставе верша і прозы. Напрыклад, трэба было ўпарадкаваць план на падставе часткі «Новай зямлі» Якуба Коласа, паставіць тэзіс да верша Петруся Броўкі «Сляды», ці зрабіць пераклад на беларускую мову. Вучні пісалі аб прычынах бежанства. Трэба было ад назоўнікаў стварыць займеннікі ў адпаведнай форме, з колькасных лічэбнікаў вучні павінны былі зрабіць парадкавыя, растлумачыць фразеалагізмы і знайсці сінонімы, — сказала старшыня конкурснай камісіі настаўніца Яўгенія Таранта.



■ За званне лаўрэата змагаліся вучні васьмі гімназій

З Гімназіі № 2 у Гайнаўцы на ваяводскія адборачныя спаборніцтвы прыехалі 3 вучні. Аляксандра Буслоўская і Габрыеля Карбоўская з гэтай гімназіі сказалі, што былі яны ўжо лаўрэатамі па беларускай мове раней, але яшчэ раз рашыліся спраўдзіць свае ўмеласці.

— Я рыхтавала да конкурсу здольную вучаніцу Эву Іванюк, якая перамагла ў прадметным конкурсе па беларускай мове яшчэ ў пачатковай школе. Аднак трэба было падчас пазаўрочных заняткаў многа працаваць з Эвай па беларускай літаратуры і граматыцы, па тым матэрыяле, з якім яна яшчэ не знаёмілася на занятках, бо ж яна толькі вучаніца першага класа, — сказала настаўніца беларускай мовы з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы Людміла Грыгарук.

У ваяводскіх адборачных спаборніцтвах прынялі ўдзел яшчэ тры іншыя вучаніцы першых класаў і ўсе яны дабіліся звання лаўрэата. У першым класе Гайнаўскай белгімназіі вучыцца Іаанна Хомчук, якая была лаўрэатам у пачатковай школе. Сказала яна, што рыхтуючыся звяртала ўвагу перш за ўсё на пытанні па літаратуры. Аляксандра Пэткаў, другакласніца бельскай «тройкі» сказала, што таксама вучылася па літаратуры, бо, прымаючы ўжо пяты раз удзел у конкурсе, ведала граматыку. Многія ўдзельнікі сёлетніх ваяводскіх адборачных спаборніцтваў перамагалі ў мінулых гадах у прадметным конкурсе па беларускай мове, будучы вучнямі пачатковых школ і гімназій. Куратары ацэньваюць школы таксама паводле колькасці лаўрэатаў і фіналістаў прадметных конкурсаў, а і бацькі, выбіраючы школу, звяртаюць увагу, колькі ў ёй было лаўрэатаў прадметных конкурсаў. Усё гэта дадаткова стымулюе саперніцтва паміж паасобнымі гімназіямі ў галіне поспехаў у прадметных конкурсах.

— У нашай школе замацавалася традыцыя прымаць удзел у прадметных конкурсах па беларускай мове. Сёння мы змагаліся з пытаннямі па літаратуры і граматыцы, а па гэтым матэрыяле мы многа гадоў вучымся ў школе, — гаварылі гімназісткі Уршуля Марчук і Алівія Кузьма з Нараўкі.

Настаўніца беларускай мовы Анна Каліноўская прывезла 6 вучняў Гайнаўскай белгімназіі, якія побач 9 вучняў Бельскай белгімназіі саставілі пераважную колькасць удзельнікаў ваяводскіх адборачных спаборніцтваў. Марыя Савіцкая раней дабівалася поспехаў, будучы вучаніцай Непублічнай пачатковай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Цяпер вучыцца яна беларускай мове ў Непублічнай гімназіі свсв. Кірылы і Мяфодзія, а стала лаўрэатам гімназічнага конкурсу як прадстаўнік Агульнаадукацыйнай музычнай школы II ступені імя Вітольда Лютаслаўскага ў Беластоку, дзе вучыцца.

У ваяводскіх адборачных спаборніцтвах удзельнічалі 9 гімназістаў бельскай «тройкі», 9 вучняў дзвюх гайнаўскіх гімназій, 5 вучняў трох беластоцкіх гімназій, 2 вучні Нараўчанскай гімназіі і вучань Гімназіі ў Чыжах. Калі на сайце Бельскага белліцэя былі абвешчаны вынікі Прадметнага конкурсу па беларускай мове для гімназістаў, стала вядомым, што перамагла Патрыцыя Лапінская з Гайнаўскай белгімназіі, набіраючы максімальную колькасць 75 балаў. На другім месцы апынулася першакласніца Эва Іванюк з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы (73 балы), а трэцяе месца занялі Юлія Банькоўская з бельскай «тройкі» і Юлія Іванюк з Гайнаўскай белгімназіі (па 72 балы). Лаўрэатамі сталі ў цэлым 7 гімназістаў бельскай «тройкі», 4 вучні Гайнаўскай белгімназіі, 3 вучні Гімназіі № 2 у Гайнаўцы, 2 вучні Гімназіі № 7 у Беластоку і па адным вучні Гімназіі свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Агульнаадукацыйнай музычнай школы II ступені імя Вітольда Лютаслаўскага ў Беластоку і Нараўчанскай гімназіі. Апрача пералічаных мною пераможцаў лаўрэатамі сталі яшчэ Аляксандра Буслоўская, Іаанна Хомчук, Клаўдзія Чыквін, Максім Фіёнік, Анна Годзінская, Габрыеля Карбоўская, Зофія Конюх, Вераніка Кардзюкевіч, Барбара Лук'янюк, Уршуля Марчук, Патрыцыя Нічыпарук, Аляксандра Пэткаў, Наталля Петручук, Марыя Савіцкая і Аляксандра Зінкевіч. Усе іншыя ўдзельнікі ваяводскіх адборачных спаборніцтваў сталі фіналістамі.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Чыгунка ў XXI стагоддзе

**Змяніўся расклад язды цягнікоў, асабліва ж паміж Беластокам і Бельскам, дзе з 12 сакавіка ўведзена часовая аўтобусная камунікацыя. Задумаў я ўвачавідкі пабачыць, як тая камунікацыя зараз выглядае.**

Чыгуначны аўтобус, якім па сутнасці з'яўляецца нанятая пэкаэсаўская машына, адпраўляецца з Беластока амаль на гадзіну раней, чым звычайны рэйкавы цягнік; з аўтобуснага прыпынку перад чыгуначным вакзалам ад'язджае ў 5:48 — было ў 6:40. Тут, як у колішніх-колішніх аўтобусах: шафёр толькі вядзе машыну, а кандуктарка прадае білеты на ўсе прыпынкі між Беластокам і Чаромхай, так як было раней у поездзе. Купляю білет у Падбелле; у салоне дзевяць пасажыраў.

Аўтобус калясіць да прыпынку Беласток-Стадыён, але не пры пероне спыняецца, толькі пры паветцы, дзе спыняюцца аўтобусы гарадской камунікацыі, што едуць з напрамку Кляосіна; тут яго ніхто не чакае. У Лявіцкіх заязджае на таварны пляц каля станцыі, спыняецца. З-за пуцёў бяжыць жанчына, шафёр галантна заварочвае машыну, пад'язджае ёй насупраць, забірае на борт і вяртаецца на ранейшае месца. Чакаем распісной мінуты адпраўкі і едзем далей — цераз Юхновец, каля Галовак-Малых, цераз Галоўкі-Вялікія, пераязджаем чыгуначны пераезд, там аўтобус заварочваецца. На прыпынку ўжо стаяць машыны, якія маюць абнавіць жыццё гэтага адрэзка колішняй Брэсцка-Граеўскай чыгункі; побач пуцей невялікая горка новага шчэбеню. У Галоўках-Вялікіх на аўтобусным прыпынку стаіць чалавек, „наш" шафёр спраўляецца, якога аўтобуса ён чакае. Неўзабаве мінаем сустрэчны „чыгуначны" аўтобус і гэты наш шафёр паведамляе свайго калегу, што на прыпынку ў Галоўках-Вялікіх чакае пасажыр у Беласток. А мне да гэтай пары здавалася, што з прыпынку ў Галоўках-Вялікіх ніхто ў ніякі бок не ездзіць, а тут такая даведка...

Цераз Зімнохі аўтобус праносіцца быццам маланка, нават цераз мясцовасць, якая на дарожным указальніку мае надпіс „Zimnochy Ost." — быццам у нейкім Берліне ці Мюнхене. Але гэта засценак нейкіх Асташоў, што, мабыць, заснавалі гэтую мясцовасць. Цераз Лешню і Доктарцы аўтобус заязджае ў Страблю, тут побач касцёла высаджвае пасажырку, якой трэба ў Мулявічы. Далей едзе быццам па нейкім турмаршруце, па завілістай вуліцы вёсачкі Лысыя, што амаль павісае над самой паўнаводнай цяпер Нарвай. У Страблі перад станцыяй памяркоўная града новага шчэбеню. А на акраіне Страблі, пры дарозе ў Плютычы, база чыгуначных работ. Тут стаянка будаўнічых машын і тэрыконы знятых з пуцёў старых шпалаў з рэйкамі. А на таварных ветках бельскай станцыі пакажуцца тэрыконы новых шпал.

Цераз Плютычы і Райск аўтобус пад'язджае да пераезду каля Арэхавіч. Сам пераезд не крануты, затое некалькі метраў ад яго ў абодвух напрамках з насыпу знята ўжо старая падсыпка і бульдозеры расчышчаюць грунт пад новую. Такая ж самая карціна і на пераездзе перад Бельскам.

На бельскі вакзал цягнік з Чаромхі прыязджае зараз пасля прыезду з Беластока чыгуначнага аўтобуса. Кандуктарка і пасажыры перасядаюць у рэйкавую машыну, якая неўзабаве адпраўляецца назад у напрамку Чаромхі. Пакідаю поезд у Падбеллі. Каля моста на Белай абвязаныя фольгавымі мяшкамі альшыны, мабыць — каб засцерагчы дрэвы перад заўчаснай высечкай бабровымі зубамі; магчыма, што такім чынам можна і баброў забараніць высечку...

Вось такі першы этап майго падарожжа, а куды далей — мае паказаць час, бо і ў Кнарыды карціць мяне, і ў Краснае Сяло... Але спярша Дубяжын. У пачатку вёскі мемарыял прысвечаны бежанству, узведзены ў сотую гадавіну пачатку гэтай маштабнай падзеі, якая вызначыла не толькі лёс прыгнятальнай большасці мясцовага насельніцтва, але значна паўплывала на ход ваенных дзеянняў


Перон пры белавежскай ветцы ў Леўках


Будынак „станцыі" ў Леўках

на ўсходнім фронце Першай сусветнай вайны, напрыклад, на здачу расійскай арміяй Модліна з усім тамашнім войскам. А хто ведае, ці тое спляценне падзей не вызваліла паспяховага бальшавіцкага перавароту і далейшай-далейшай хвалі папулізму, на якой сёння і мы дрэйфуем у занадта цікавую будучыню...

Не надта далёка ад бежанскага мемарыяла і карціна сённяшняга рэальнага бежанства, бежанства нашага насельніцтва ў шырокі свет, толькі па іншых азімутах чым звыш ста гадоў раней. Заходжу ў дубяжынскую краму, дзе дзве маладзіцы за прылаўкам і нікога перад прылаўкам. Яшчэ гадоў таму некалькі за прылаўкам стаяў тут мужчына, якога жыццёвая траекторыя набліжалася да пенсійнага ўзросту, ды і перад прылаўкам заўсёды хтосьці быў — сёння гэта ўжо сівеючая даўніна.

Поезд, які мяне прывёз у Падбелле, мае вярнуцца назад, у напрамку Беластока, тры гадзіны пазней. Думаецца мне пад'ехаць ім яшчэ раз, у Райск, і пабачыць рамантаваны чыгуначны пуць непасрэдна, не з аўтобуснага акна. Таму кіруюся ў напрамку Кнарыд, маючы надзею, што там сяду на нейкі аўтобус, якім успею ў Бельск на згаданы поезд. Да ад'езду аўтобуса з Кнарыд менш за паўтары гадзіны, а пасля там трохгадзінны аўтобусны штыль. Паказальнік


Каля Райска


Мемарыял у Дубяжыне

паведамляе, што ў Кнарыды чатыры кіламетры, але з асабістага досведу ведаю, што гэта вельмі доўгія кіламетры, на той аўтобус магу не ўспець... Ад расхадных дарог, што каля Мокрага, рашаю вярнуцца ў наваколле чыгункі.

Вяртаюся дарогай, што ад Мокрага вядзе напрасткі ў Падбелле. Дарога гэтая мае такі быццам музейны характар: у яе і пясочны насціл, і брукаваны, і асфальт — масціл яе чым папала. А побач яе, у лесе, традыцыйная вясковая звалка непатрэбшчыны...

З мастка на Белай будынкі Казлоў здаюцца быць блізенька, быццам рукою падаць. Аднак тая адлегласць, перамераная нагамі па мокрай жвіроўцы, значна буйнее. За Казламі чарговы масток, за мастком Рэйпічы, Леўкі і наступны масток на Белай. На вуліцы ў Леўках мінаю пару пажылых людзей. Мінуўшы мяне, адварочваюцца і цікавяцца, ці я чаго не „інкасую". „Калі маеце нейкія лішнія грошы, то магу іх заінкасаваць" — жартую. „Ой, не, няма ў нас такіх"...

Заходжу на чыгуначны прыпынак — там яшчэ захаваўся будыначак, у якім была калісь пачакальня і, мабыць, службовае памяшканне стрэлачніка, што перастаўляў стрэлкі рэек у напрамку Гайнаўкі і Чаромхі. Стрэлак ужо няма, на іх месцы яшчэ адносна свежы шчэбень. А згаданы будынак нагадвае нейкую крэпасць, палова якой яшчэ бароніцца ад наступу гарэзлівых заваёўнікаў, а палова ўжо заваявана і на яе сценах усялякуткія „дакументы", выкананыя з прымяненнем рознай даступнай простаму маладому чалавеку тэхнікі.

Ветка ў напрамку Гайнаўкі, якая была пакладзена пад царскія цягнікі ў канцы XIX стагоддзя, зарасла рознай прыродай: тут і травы, і дрэвы, а на рэйках вырас цалкам прыстойны мох — зусім новы, спецыфічны біяцэноз. Пра які, аднак, хацелася б сентыментальна сказаць папулярную ў народзе прыказку: няма цара, няма парадку... Але хто ведае, ці ў ходзе чаканай мадэрнізацыі чыгуначнага адрэзка між Бельскам і Чаромхай не вернецца пасажырскае жыццё і на колішні царскі шлях у Белавежу...

Вяртаюся поездам з Леўкаў у Райск. Зноў перасадка ў Бельску з рэйкавага аўтобуса на шашэйны. У рэйкавым аўтобусе прыехалі два сакісты, якія далей, у Беласток, не едуць, застаюцца ў Бельску. Апрача мяне ў салоне пасажырам яшчэ пажылая жанчына, якая едзе менавіта ў Райск. Цяпер „цягнік" заязджае ў самую вёску, а да таго ж добры шафёр спыняе яго акуратненька перад хатай пасажыркі. Далей, у Беласток, паехалі шафёр і двое кандуктараў.

А мяне цікавіць брацкая магіла за вёскай, дзе пакояцца астанкі паўтары соткі раян, забітых у 1942 годзе гітлераўцамі. Раней над гэтай магілай узвышаліся дрэвы, зараз іх няма. Пра іх высечку хачу спытаць гаспадароў, якія ходзяць па панадворках, але яны, мабыць таксама падазраваючы ўва мне „інкасэнта", падаюцца абы далей.

А я падаюся ў напрамку чыгуначнай ліііі, дарогай, што вядзе з Райска ў Сталавач. Легенда пра мясцовую царкву паведамляе, што мелі яе ўзвесці менавіта ў Сталавачы, але валы, якія цягнулі будаўнічы матэрыял, не захацелі ісці далейшай дарогай і спыніліся ў Райску. І калі б сёння тыя валы пабачылі дарогу з Райска ў Сталавач, дык верагодна таксама не захацелі б на яе ступаць. Дарога тая, хаця шырокая, аднак у своеасаблівым грунтавым жолабе, у якім зараз размоклы пясок. А гэта дробязь у параўнанні з яе „насцілам" у час адлігі, калі яна „вымашчана" тонкім ільдом на суцэльнай калюжыне; па гэтай дарозе меў я магчымасць прабірацца некалькі гадоў таму.

На гэтай дарозе чыгуначны пераезд таксама не крануты, на пуці за пераездам рэйкі зняты, толькі яшчэ сюды не дабраліся бульдозеры. Мабыць мадэрнізацыя чыгуначнага палатна адбываецца паэтапна: ад прыпынку да прыпынку. А калі завершыцца, то можа загляне сонца і ў наша чыгуначнае ваконца.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

3 ☞ працяг

# Дзень Волі ў Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім





■ На святкаванні Дня Волі ў Гайнаўскім белмузеі сабраліся жыхары Гайнаўкі і прыезджыя (на першым плане справа арганізатар святкавання Хрыстафор Ангельчык, а злева журналіст Радыё Рацыя Аляксей Трубкін)

Афіцыйная частка святкавання Дня Волі ў Гайнаўскім белмузеі распачалося з гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і закончылася гімнам «Магутны Божа». Вядучы сустрэчу Тамаш Суліма прывітаў сабраных у белмузеі, сярод якіх былі госці з Рэспублікі Беларусь, стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, дырэктар Бюро Аб'яднання самаўрадаў «Еўрарэгіёна Белавежская пушча» ў Гайнаўцы Ян Хомчук, дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, старшыня Фонду «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы Мікола Бушко, у мінулым дырэктар Гайнаўскага дома культуры, настаўнікі Гайнаўскага белліцэя Ян Карчэўскі і Анна Хомчук, былыя настаўнікі белліцэя Вольга Сянкевіч, Яўген Янчук, Аляксей Мароз і настаўнікі іншых школ, пісьменнік Міхал Андрасюк, мастакі Віктар Кабац, у мінулым дырэктар Гайнаўскага дома культуры і Уладзімір Мусько, у мінулым дырэктар Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы. Прыбыў сябра партыі «Разам» Севярын Пракапюк, прыйшлі іншыя маладыя асобы. Тамаш Суліма зачытаў зварот старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў замежжы Івонкі Сурвілы да беларускай нацыі з нагоды святкавання Дня Волі. Тамаш Суліма заклікаў сабраных, каб падчас святкавання ў белмузеі ў думках злучыліся з тымі асобамі, якія ў гэты ж час у Рэспубліцы Беларусь арыштоўваліся за спробу святкаваць Дзень Волі. Журналіст Беларускага Радыё Рацыя Аляксей Трубкін прэзентаваў сабраным праект «Беларускі Беласток», прысвечаны беластоцкім месцам з беларускай прысутнасцю (праект даступны на сайце Радыё Рацыя). Звярнуў ён увагу на беларускіх герояў, якія прымалі ўдзел у заснаванні Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе. Гісторык Алег Латышонак ініцыяваў у мінулым годзе частаванне ўдзельнікаў святкавання Дня Незалежнасці ў белмузеі *буслінымі лапамі*, што пяклі нашы бабулі пад Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы, якое беларусы на Гайнаўшчыне адзначаюць 7 красавіка. Гэтую традыцыю прадоўжылі ўдзельнікі сёлетняга святкавання. Сабраныя атрымалі нававыдадзеную кніжку «Гісторыя беларусаў Падляшша», адным з аўтараў якой з'яўляецца менавіта прафесар Алег Латышонак. Прэзентаваўся таксама фільм «Партрэт» тэлеканала «Белсат» у рэжысуры Вольгі Дашук, якая ўмела паказала партрэты грамадзян Рэспублікі Беларусь рознага ўзросту. Яшчэ да ўрачыстага адкрыцця мерапрыемства адбыўся прэм'ерны паказ двух фільмаў «Танатос & Эрос» і «Хранатоп #375», рэалізаваных у рамках польска-беларускага кінапраекта «Хранатоп». Пасля прэзентацыі фільмаў адбылася сустрэча з Янушам Гаўрылюком, суаўтарам праекта «Хранатоп» і прадстаўніком тэлеканала «Белсат», які запрашаў на летнія майстар-класы па кіно. Святкаванне ў Гайнаўцы закончылася адмысловым канцэртам беларускага барда Віктара Шалкевіча.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# http://livingheritage.by

У адным са сваіх лютаўскіх нумароў „Ніва" пісала пра такую ўстанову як „Інстытут беларускай культуры", які беспадстаўна прысабечыў імя пачынальніка сучаснай Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — Інбелькульта (Інстытута культуры Беларусі). Нягледзячы на такую не зусім прыгожую справу — прысабечванне чужога імя, сучасны Інбелкульт робіць і карыснае — па меншай меры, дзякуючы свайму структурнаму падраздзяленню — аддзелу навукова-метадычнага забеспячэння дзейнасці па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Каб пазнаёміцца з адной з яго прац, варта зазірнуць на сайт інвентару нематэрыяльнай культурнай спадчыны „Жывая спадчына Беларусі", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://livingheritage.by.

Галоўная старонка сайта выглядае прываблíва і інфарматыўна. Адразу ў вочы кідаюцца выявы дзяўчынак у народных строях і з вянкамі на галовах. Карта Беларусі з абласным адміністратыўным дзяленнем і пералік тэматычных рубрык ствараюць ураджанне сур'ёзнасці і дакладнасці змешчанай інфармацыі. Ніжэй ідзе прэзентацыя сайта. „Мова, звычаі, традыцыі, веды і тэхналогіі, якія перададзены нам продкамі з рук у рукі, з вуснаў у вусны, ад сэрца да сэрца, скрозь вякі як каштоўныя знакі памяці. Яны могуць знікнуць назаўсёды, калі мы не захаваем іх, каб перадаць сваім дзецям і ўнукам, ад пакалення да пакалення, з рук у рукі, з вуснаў у вусны, ад сэрца да сэрца, праз час і прастору..." — узнёсла распавядаецца на галоўнай старонцы. Там жа адзначаецца, што даны сайт — гэта спецыялізаваны рэсурс Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, які ўтрымлівае інфармацыю пра лепшыя здабыткі нематэрыяльнай культурнай спадчыны Беларусі, і створаны пры фінансавай і кансультатыўнай падтрымцы Фонду нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

Уласна інвентар уяўляе сабой базу дадзеных элементаў нематэрыяльнай культурнай спадчыны, уключаных у Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі, а таксама тых, якім гэты статус яшчэ прыйдзецца атрымаць.

Увесь змест інвентару раскрываецца ў рубрыках, выйсці на якія месцяцца ўверсе з левага боку выяўлення. Так, у „Выканальніцкіх мастацтвах" распавядаецца пра спевы і танцы ў розных кутках Беларусі. „Вусныя традыцыі і формы выражэння" змяшчаюць расповеды пра абрады і традыцыі, а „Светапогляд людзей, міфалогія" перадае змест урачыстасцей, прымеркаваных да якіх-небудзь дат ці святаў. Аб тым, што рабілі людзі сваімі рукамі ў розных беларускіх мясцовасцях, распавядае рубрыка „Традыцыйныя рамёствы". „Традыцыйная ежа" дае ўяўленне аб кулінарных асаблівасцях. „Традыцыйныя цырымоніі" па сутнасці з'яўляюцца працягам рубрык пра светапогляд і формы выражэння, бо змяшчаюць інфармацыю пра абрады і абыходы святаў. А вось аб практыках захавання наведвальнік сайта не даведаецца нічога, бо ніякіх звестак пра іх у аднайменнай рубрыцы няма.

Варта адзначыць, што сайт „Жывая спадчына Беларусі" абнаўляецца даволі часта. Аб гэтым сведчыць рубрыка „Навіны", якая змяшчае паведамленні ад 2012 года. Апошняя нататка датуецца там сёлетнім сакавіком.

Для навукоўцаў, якія займаюцца вывучэннем нематэрыяльнай культурнай спадчыны, асабліва цікавай будзе рубрыка „Публікацыі". Прынамсі, там месцяцца спісы як нематэрыяльных, так і матэрыяльных беларускіх культурных каштоўнасцей.

❖**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

Прэзідэнт БНР з Дабрасельцаў



# 140 гадоў з дня нараджэння Васіля Захаркі

Васіль Захарка нарадзіўся 1 красавіка 1877 г. у вёсцы Дабрасельцы (Зэльвенскі раён). Пачатковую адукацыю атрымаў дома. Скончыў Лыскаўскую настаўніцкую семінарыю. З 1895 г. — настаўнік царкоўнапрыходскай школы. Вытрымаў экзамен па праграме юнкерскай вучэльні і расійскай гімназіі. З 1898 г. працяглы час на ваеннай службе. У 1917 г. сябра БСГ, адзін з арганізатараў з'езда беларускіх вайскоўцаў Заходняга фронту, сакратар Цэнтральнай беларускай ваеннай рады. Удзельнік І-га Усебеларускага з'езда, абраны сябрам рады. Арыштоўваўся бальшавікамі ў студзені 1918 г. З лютага 1918 г. у складзе Народнага сакратарыята БНР, скарбнік у гэтым урадзе. Вёў перамовы з нямецкімі ваеннымі ўладамі па справе канфіскаваных грошай, абраны сябрам фінансавай камісіі Рады БНР. Пасля займаў розныя міністэрскія пасады. З мая 1918 г. — кіраўнік друкарні Народнага сакратарыята БНР. Разам з Макаром Касцевічам абраны Мінскай думай міравым суддзёй. У ліпені 1918 г. увайшоў у склад кабінета Янкі Серады, заняўшы пасаду народнага сакратара фінансаў. Міністр фінансаў ва ўрадзе Антона Луцкевіча. У снежні 1918 г. — у Вільні.

Прыехаў у Гродна ў снежні 1918 г., як ганаровы госць прысутнічаў на Гродзенскім беларускім сялянскім з'ездзе. Выконваў абавязкі кіраўніка канцылярыі міністэрства беларускіх спраў Літвы. Сябра Гродзенскага БНК і клуба „Беларуская хатка". У снежні 1918 г. удзельнічаў у перамовах БНК з Гродзенскай управай. Вёў дыпламатычную працу з немцамі. Разам з Антонам Луцкевічам даслаў некалькі нотаў пратэсту ад імя ўрада БНР супраць захопу беларускіх зямель. З другой паловы лютага 1919 г. — ва Украіне, дзе шукаў грошай для БНР. У траўні 1919 г. — у Берліне. У чэрвені 1919 г. — у Коўне як часовы намеснік старшыні ўрада БНР. Потым зноў у Берліне, дзе фактычна выконваў абавязкі кіраўніка беларускага ўрада.

Пасля расколу Рады БНР у канцы 1919 г. Захарка абраны намеснікам старшыні Прэзідыума Народнай Рады БНР, потым урадам Луцкевіча адхілены з пасады міністра. Ішлі сваркі. Зноў прыехаў у Гродна ў сакавіку 1919 г. з Берліна. Прысутнічаў на пасяджэннях урада БНР у Гродне 18 і 21 сакавіка. Выступіў 25 сакавіка 1919 г. на развітальнай вячэры, прысвечанай ад'езду Язэпа Варонкі. Як прадстаўнік урада БНР удзельнічаў у адкрыцці І-га беларускага настаўніцкага з'езда Гродзеншчыны. Ад імя Рады міністраў БНР апратэставаў заяву Цвіркі-Гадыцкага аб далучэнні Беларусі да Польшчы. Неўзабаве выехаў з Гродна ў Берлін.

У канцы 1919 г. быў у Мінску, хаваўся ад арышту польскімі ўладамі. На пачатку 1920 г. зноў у Берліне, потым у Празе. Удзельнічаў у нарадзе прэзідыума Рады БНР і ўрада Вацлава Ластоўскага ў Рызе. Потым вёў місію БНР у Маскве. Пасля ў Рызе, зноў у Коўне. Намеснік старшыні І-й Усебеларускай канферэнцыі ў Празе ў верасні 1921 г. У 1923 г. — міністр фінансаў ва ўрадзе Цвікевіча. Пасля ІІ-й Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне не прызнаў Мінска адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Застаўся ў эміграцыі ў Чэхіі. Намеснік старшыні Рады БНР, з сакавіка 1928 г. да сакавіка 1943 г. — прэзідэнт Рады БНР. Збіраў архіў БНР, далучыў да гэтай справы Ларысу Геніюш. Ад імя БНР праводзіў актыўную кампанію зваротаў і петыцый у Лігу Нацый і іншыя міжнародныя органы.

Памёр Васіль Захарка 14 сакавіка 1943 г. Пахаваны ў Празе на Альшанскіх могілках.

❖Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# 25 сакавіка ў Трыгарадзе

У суботу 25 сакавіка 99-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі беларусы, якія пражываюць на Памор'і. Святкаванні пачаліся з сустрэчы на Гарнізонных могілках у цэнтры Гданьска, дзе пахаваныя дзеяч БНР Лука Дзекуць-Малей (1888-1955), яго жонка, беларуская настаўніца Серафіма (1898-1953) і мастак Козьма Чурыла (1908-1951). Пры магіле Лукі Дзекуця-Малея пастар баптысцкай царквы ў Гданьску Славамір зачытаў фрагмент Паслання Паўлы да эфесцаў. Тое ж самае было зачытана ў перакладзе Лукі Дзекуця-Малея на беларускую мову. На ўспомненых магілах мы ўсклалі вянкі і запалілі знічкі.

Пасля ўсе пераехалі пад камень у гонар Янку Купалу ў Гданьску-Аліве, дзе ўсклалі бел-чырвона-белыя кветкі і зачыталі верш Янкі Купалы «Свайму народу» з 1918 г.

А пошнім акордам святкавання была сустрэча ў сядзібе Беларускага культурнага таварыства «Хатка» ў Сопаце, спалучаная з юбілеем 75-годдзя Алеся Юзэфовіча, найстарэйшага стажам беларускага дзеяча на Памор'і, які актыўны і верны грамадскай дзейнасці на беларускай ніве з 1967 г., калі толькі пачалася беларуская арганізацыйная дзейнасць у Гданьску. Праспяваўшы гімны «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа», зачыталі юбілейнае віншаванне МГА ЗБС «Бацькаўшчыны», успомнілі гісторыю абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і заадно пачаткі беларускага руху на Памор'і. Часлаў Мекін зачытаў свой верш, прысвечаны Алесю Юзэфовічу. У сямейнай атмасферы ўзносілі тосты за нашага Алеся і Беларусь.

Цікава адзначыць, што наша святкаванне прыцягае таксама новых беларусаў, якія паяўляюцца ў Гданьску — студэнтаў ці тых, якія тут працуюць. На могілкі прыйшла Алеся, якая займаецца маркетынгам у адной з паморскіх фірм. Да каменя падышлі студэнты, якія вучацца ў Трыгарадзе, а ў нашу «Хатку» завітала Аксана (інфарматык-праграміст, якая ад года працуе ў гданьскай фірме) з сябрам палякам, бацькі якога родам з Беларусі. Ад могілак да Алівы быў з намі польскі веласіпедыст з бел-чырвона-белымі стужкамі пры ровары, які сказаў, што ён вялікі прыхільнік Усходу і пад камень Янкі Купалы прывёз нам цёпленькі грузінскі ляваш.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

# Плебісцыт

## на фолькавую кружэлку года

12 сакавіка пачаўся XIV выпуск інтэрнэтнага плебісцыту «Віртуальныя гуслі» на фолькавую кружэлку. Сёлета інтэрнаўты будуць выбіраць найлепшую фолькавую кружэлку 2016 года, якая выйшла ў Польшчы. Галасаванне праводзіцца на сайце http://www.gesle.folk.pl да 30 красавіка 2017 года.

Інтэрнаўты-слухачы маюць магчымасць выбіраць з 96 альбомаў шырока разуметай фолькавай музыкі, таксама традыцыйнай, этнічнай і музыкі свету. Удзельнік плебісцыту дадаткова можа выбраць найпрыгажэйшую, на яго думку, вокладку кружэлкі.

Спецыфікай фолькавай музыкі з'яўляецца разнароднасць і багацце натхнення, як стылістычнага, так і геаграфічнага. Ад традыцыі і крыніцы (вясковых музыкантаў), па сучасную музыку, рокавую, фольк-джаз ці фольк-метал. Ад польскай традыцыйнай музыкі (сельскай і гарадской) па натхненне блізкімі і далёкімі культурамі свету. Паміж кружэлкамі «Віртуальных гусляў» знойдзем цэлую разнароднасць і багацце музычных думак.

Варта адзначыць, што ў плебісцыце за 2003 год перамагла фолькавая кружэлка «Hulaj póki czas» гурту «Чарамшына».

**Уладзімір СІДАРУК**

# Еўрадэпутаты на прыцэле?

Два гады таму штотыднёвік «Ньюсвік» Тамаша Ліса выявіў, што еўрадэпутаты Права і справядлівасці давалі працу сваім людзям на фіктыўных пасадах у Еўрапарламенце. Пасля публікацыі фінансавыя службы Еўрапарламента зрабілі аўдыт. Вынік аказаўся быць станоўчым. Дзеля таго супраць пяці еўрадэпутатаў Права і справядлівасці — Рышарда Легуткі, Бэаты Гасеўскай, Збігнева Кузьмюка, Тамаша Парэмбы і Марка Грубарчыка вядзецца расследаванне. Пры нагодзе тыднёвік Ліса ўсунуў у клопаты Барбару Кудрыцкую з Грамадзянскай платформы і Яраслава Каліноўскага з ПСЛ. Калі падазрэнні пацвердзяцца, ЕП можа патрабаваць звароту грошай, выплачаных фіктыўным працаўнікам. Кожны з еўрадэпутатаў атрымаў месячны тэрмін для дачы тлумачэнняў. Адпаведныя службовыя лісты Еўрапарламент ужо паслаў.

У коле падазраваных знаходзяцца еўрапарламентарыі іншых дзяржаў. Неаднойчы гэта значныя асобы еўрапейскай палітычнай сцэны. **(УС)**



# Адгаданка

**1.** пабудова для купання, **2.** травяністая расліна сямейства ароідных (*Acorus calamus*), **3.** злучэнне вадароду і кіслароду ў калодзежы, **4.** буйны бакавы адростак дрэва, **5.** частка храма, абмежаваная радам калон, **6.** мяжа, **7.** перадавы работнік вытворчасці або музыка, які іграе на ўдарным інструменце, **8.** валошка, **9.** гадзіннік, які можа будзіць, **10.** грашовая адзінка Бенілюкса, **11.** зароджаная ў ЗША музыка на аснове спалучэння афрыканскай і еўрапейскай культур, **12.** муж буржуйкі, **13.** возера на захадзе Ірана, **14.** моцнае жаданне піць, **15.** антонім анода, **16.** бацька паніча, **17.** рыба сямейства карпавых (*Tinca tinca*), **18.** не бас і не тэнар.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 1 | | | 2 | | | 3 | | | | 4 | 5 | | 6 | | | |
| | | 7 | 8 | | | 9 | | | | 10 | | | | 11 | | | | 12 |
| | | | | | | | | | | | 13 | | | | | | | |
| | | | 14 | 15 | | | 16 | | 17 | | | | 18 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**

Веер, гама, маса, маска, меч, сага, сена, сон, ціс, чэк.

Рашэнне: **Сакавік часам снегам сее, а часам сонцам грэе**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

**(ш)**

# 02.04 — 08.04

**(22.03. — 20.04.)** Пік формы. Ты цяпер іграеш на першай скрыпцы ў аркестры. Зоркі памогуць табе запраграмаваць сваю будучыню. Вызнач сабе мэты і апрацуй план іх дасягнення. Не саромейся выходзіць наперад і звяртаць на сябе ўвагу. Можа, дзесьці каля 6.04. чакае цябе новы кабінет? Добры час на візіты і добраўпарадкаванне дому. Маеш цяпер добры нос да інтарэсаў! За хутка не прызнавайся ў пачуццях.

**(21.04. — 21.05.)** Дзейнічай хутка і рашуча. Толькі не наступі камусь на мазоль! Але вельмі дбай аб здароўе, не натужвайся. Магчымая сустрэча са старым каханнем. 2-4.04. пакажаш свой рэфлекс і кемлівасць. З 7.04. (да 11.04.) не дай сябе ўцягнуць у спробы хто з вас мацнейшы. Не наракай, маеш усё, каб сваю кар'еру накіраваць куды хочаш.

**(22.05. — 22.06.)** 2-4.04. пераканаешся, колькі людзей цябе любіць і паважае. Не раздумвай аб сваім здароўі, а схадзі да лекара; не бойся. Блізняты з другой дэкады павінны звярнуць сваю ўвагу на свае вочы, праверыць, ці не маюць алергіі. Будзе ўсё ісці як па грудзе, але не турбуйся — пад канец красавіка ўсміхнецца да цябе шчасце!

**(23.06. — 23.07.)** 3-9.04. будзеш мець прыбыткі там, дзе іншыя страцяць. Хаця 2-6.04. можа прытрапіцца табе параза, але што ж зробіш. Прыйдзецца прыняць на сябе чужыя абавязкі, але не дазваляй узлазіць сабе на галаву. Захочацца паказаць канкурэнцыі, дзе ракі зімуюць, але не жартуй з вельмі моцным супернікам. Штодзённа вучыся чагосьці новага.

**(24.07. — 23.08.)** Ад планавання пяройдзеш да дзейнасці. Не ўцякай ад размоў, асабліва тых, што, здаецца, найцяжэйшыя. Гарантуюцца табе новыя выклікі і шанцы на іх рэалізацыю. Хаця могуць пры гэтым размінуцца твае чаканні са спадзяваннямі тваіх сяброў. Магчымыя канфлікты на працы. Давай добры прыклад у радні. Магчымае часовае пагаршэнне здароўя, але не пераймайся — арганізм збярэцца з сіламі да барацьбы, а ты лішне не рызыкуй, бо бравурнасць горшая ад вірусаў.

**(24.08. — 23.09.)** 4-9.04. будзеш мець харызму і баявітасць. Шыкуецца больш абавязкаў, але і ўзнагароды. Трэба будзе аформіць нудныя, але неадкладныя справы. Энергіі будзе шмат, але лад зорак можа заблакаваць твае некаторыя дзеянні, ды Венера паможа табе выбрацца з турбот.

**(24.09. — 23.10.)** Найважнейшыя справы пойдуць па тваёй думцы, а драбязой не пераймайся. Будзеш мець ахвоту выйсці перад шэраг, паказацца. Магчымыя крутыя сюрпрызы. Добрае засяроджанне, дзякуючы чаму будзеш дзейнічаць спраўна і з вялікім поспехам. Час натужлівай працы, але вельмі добра сарганізуеш работу, магчымае павышэнне. Але не шкадуй часу на адпачынак. Ды не хваліся здабыткамі, грашыма. На тваёй дарозе можа стануць новы сябра.

**(24.10. — 22.11.)** 2-4.04. добры момант, каб сваёй ідэяй зацікавіць іншых. 4-9.04. малым высілкам дасягнеш многае. Шмат залежыць ад цябе самога. Трымай свае нервы на павадку, выйдзеш на плюс, і ў працы, і ў каханні. Форма някепская, але не прастудзіся асабліва з 7.04. (да 11.04.). Твой шлях у красавіку набіты перашкодамі, не рэагуй агрэсіўна і нервова. Затое здольны будзеш да экстрэмальнага высілку.

**(23.11. — 22.12.)** Удасца табе змяніць штосьці на лепшае, развязаць шмат праблем. А прытым будзеш выдатна гуляць! Пакажаш свае найлепшыя бакі, будзеш самаўпэўнены. З 6.04. (да 10.04.) не пападай у крайнасці. Закілзаеш непатрэбныя эмоцыі. Але квадратура Венеры можа прынесці холад у тваю пару. Усе з табою будуць мусілі лічыцца. Выходзь на сонца.

**(23.12. — 20.01.)** 2-3.04. цяжкія размовы канчацца поспехам. 3-9.04. паставіш на сваім. З 7.04. магчымыя канфлікты. Змагайся за сваё, але не за любую цану. Не памылі сяброўства з каханнем. Тугавата будзе ў афармленні спраў з 6.04. у змаганні з бюракратамі. Зоркі намаўляюць да спорту, але ты хутчэй схочаш патрэніраваць свой мозг. Можа, усё ж, выйдзеш на вуліцу? Пі мінералку і белую гарбату. І добра высыпайся!

**(21.01. — 19.02.)** Пазітыўныя вынікі тваіх старанняў хутка заахвоцяць цябе да далейшай працы. Раскручвай свой бізнес. Трэба будзе панамагацца. Але зоркі забяруць з тваёй дарогі перашкоды і дзьмухнуць моцна ў ветразі. Энергічна афармляй розныя справы. Будзеш мець поспехі на розных палях. Паляпшэнне настрою.

**(20.02. — 21.03.)** Пазбудзешся з радасцю ад некалькіх нецікавых сувязей і на канец пачнеш сам вырашаць аб сабе. Выдатна ў сферы фінансаў — будзе немалы даход! Варта цяпер памірыцца з непрыяцелямі і пераканаць да сябе сваю апазіцыю. Не трапляй з крайнасці ў крайнасць са сваімі настроямі. Не ўяўляй таго чаго на самой праўдзе няма. Можаш спраўна і хораша памяняць свой імідж.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (79)



Міжнародны тракт Прыклпднікі – Роўна

У вёсцы Кутань, дзе ў трапічнай спёцы чакала я чарговага аўтобуса, у мой бок паляцела пытанне:

— А вы падарожнічаеце па этнаграфічнаму *вапросу*? — спытала мяне жанчына.

— Ну, — машынальна адказала мая галава. Думкі яшчэ былі заняты дзіўнай сустрэчай сярод балот. І цяпер я дзяўбла загвоздку: ці той субяседнік быў рэальны? Якраз пасаваў да народных уяўленняў пра чарцей: прыгажун у капелюшы і на чырвоным «Аўдзі». Праўда, ён быў бландзін, але калі ўлічыць варажскі ўплыў на мясцовы генатып, усё здавалася магчымым. Аднак мучылі сумненні. Хто нармальны паверыць, што сярод асакі-рызухі і альшыны, я буду размаўляць са спецам па міжнародных праектах і глабальнай эканоміі?! Ён расказаў яшчэ пра новыя трэнды ў кантрабандзе палескага бурштыну. Словам, прыслухыўся, што лепш не трэба.

Хоць найбольш ашаламіў мяне магічны GPS-маніторынг, і гэта была асалода для стомленага цела. Як гэта магчыма, каб ва ўмовах татальнага бездарожжа і блуканіны трапляць у жаданае месца, дакладна ў той час, калі якраз трэба? Час не падводзіў ды яшчэ расцягнуўся як рускі месяц, каб даўжэй трымаць у сваіх чарадзейных лапах. Быццам матэрыялізаваліся замовы добрых шаптух, якіх я сустракала на сваім шляху. Усё гэта падыходзіла да этнаграфіі, у якой я сама стала шчаслівым медыумам.

Пытанне на прыпынку падказвала, што ў гэты закутак Еўропы ніхто не едзе без справы, а чалавек звонку явіцца тут этнографам.

* * *

З Прыкладнік рушыла я ў бок Марочна, якое я наведала вясной мінулага года. Хоць мая дарога лічылася міжнароднай, яна ўяўляла сабой разрэзданую брукаванку з небяспечнымі дзірамі. Пасля трох кіламетраў пры дарозе я пабачыла дубовую лаву. Я не разлічвала, што паспею на аўтобус, які завязе мяне ў Кутань, дзе чакала наступная перасадка ў Нобель. Пасля сарака хвілін маршу мяне не абагнала ні адна машына.

Абапал дарогі ажно па небакрай цягнуліся Марачанскія балоты. У сямідзясятыя гады іх паспрабавалі асушыць і завесці там сельскагаспадарчыя культуры. Зараз з-за нерамантаваных каналаў на былых калгасныя лугі вярнуліся вербалоз, рагоз і рызуха. Я спрабавала пазваніць да бацюшкі ў Марочна, аднак тэлефонная сувязь не спрацавала. Трэба было спадзявацца на тэлепатыю. Гісторык Сцяпан Аласюк расказаў многа метафізічных гісторый, між іншым пра звышвербальныя спосабы камунікацыі на адлегласць. У часы дзяцінства пасвіў ён дабытак з дзядамі-вешчунамі. У яго Сэліску жыў стары, які ў дзень кастрычніцкай рэвалюцыі глядзеў на сонца і гаварыў, што адбываецца на Крамлі. Ды каментаваў усё гэта на свой незалежны, вяшчунскі спосаб: *Вунь, Сталін лезе і сапе як паравоз. Ужо пасівеў, адна нага адмаўляе паслушэнства, ледзь брыдзе падла. А а за ім уюцца гадзюкі, яны блішчаць у сонцы, а на іх грудзях кроў нявінных людзей. Усе яны павярнулі ў маўзалей, пакланіцца васковаму мерцвяку, ідалу...*

У час, калі дзед назіраў праз сонца палітычныя падзеі на Крамлі, ніхто ў Сэліску не бачыў тэлевізара. Мяне інтрыгаваў яшчэ салярны назоў сяла. Сэліск асацыяваўся з літоўскім Saule. Сцяпан Аласюк дадаў, што на яго бацькаўшчыне пра сонца кажуць *Солнэчнік*.

* * *

Гісторыі з Сэліска надта падыходзілі да балотных ландшафтаў, якія зрасталіся з небам, зафарбаваным на васільковы колер, пазначаным белымі хмаркамі. У паветры лунаў грызучы пах паленага торфу. Магчыма, дзесьці непадалёк гарэлі тарфянікі, ад якіх заставаліся ямы з мёртвай вадой. Трыста метраў далей маю дарогу перабег чорны звярок.

Сцяпан Аласюк расказаў пра свайго дзеда Сцяпана, які таксама *штосьці ведаў*. Прыгадаў, як аднойчы разам выправіліся яны ў лясны ўчастак пасвіць кароў. А там былі сенажаці, якія належалі леснікам. У адзін момант іх жывёла ўлезла ў шкоду. Дык тады як з-пад зямлі з'явіўся ляснік і кінуўся з грубым матам да дзеда. У пяцідзясятыя гады, пры Сталіне, людзі баяліся пайсці супраць улады. Аласюкі чым хутчэй запынілі кароў і пагналі іх у свой двор. Сцяпан Адамавіч запамятаў, як дзед тады ўсхваляваўся і ўсю дарогу штосьць да сябе гаварыў. Ну, прыгналі ўжо кароў на панадворак, хочуць загнаць у хлеў, а яны — ходу! Разбегліся кожная ў іншы бок.

— Я ўжо гатовы быў ляцець і запыняць жывёлу, але дзед строга забараніў, — успамінае спадар Сцяпан. — І сказаў: «Стой! Зараз яны прыйдуць...».

Стары падышоў да хлява, зняў пасталы з ног і нешта шпурнуў у хлеў. Праз некалькі хвілін усе каровы прыбеглі ў хлеў. Паверыце ў такое?

І гэта не канец гісторыі, якую на ўсё жыццё запамятаў субяседнік. Ноччу ў іх хаце ўчыніўся шум. Сабака, які пільнаваў двор, стаў скавытаць і грэбці зямлю. Спачатку падумалі, што нехта прыехаў па паратунак да бабы з хворым дзіцяткам. Бацька асцярожна запаліў лямпу і выйшаў на двор. І бачыць... а той ляснік паўзе на каленях, просіць сустрэцца з дзедам. Дзед доўга адмаўляўся. Але ў канцы канцоў выйшаў на двор. То ляснік цалаваў дзеду ногі і прасіў прабачэння.

— Не ведаю пра што яны яшчэ гаварылі, — успамінае Сцяпан Адамавіч, — аднак, пасля размовы ўсё вярнулася на месца. Бо той ляснік прыпёрся да дзеда, каб ратаваць свой дабытак. У час, калі дзед з дапамогай закляццяў, заганяў сваіх кароў у хлеў, у яго спужалася жывёла. Знаравіліся коні, разбегліся па лесе каровы. Калі ляснік вярнуўся раніцай у свой лясны хутар, жывёла вярнулася на панадворак.

— Толькі яна была ўпацелая і мокрая, — дадае Сцяпан Аласюк, — быццам хто яе ганяў усю ноч. Штось такое было, сам бачыў, — сцвярджае.

* * *

Спачатку я не верыла сваім вачам, калі з бакавой сцяжыны, аброслай трыснягом і вербалозам, паўкіламетра далей на брукаванку павярнула чырвонае «Аўдзі». Быццам ахвяра караблекрушэння на моры, я стала махаць рукамі, сігналіць, каб шафёр спыніўся. Але ён узіраўся на выбоіны і каляіны, ды не пабачыў маіх адчайных жэстаў. Від машыны на міг уваскрэсіў надзею. Здавалася, што з дапамогай «Аўдзі» паспею яшчэ на аўтобус. А тут капец! Чарговы раз я зазнала горкую паразу. Але на Палессі нішто не бывае адназначным ды з часам параза можа прамовіць як поспех. Я не паспела яшчэ атрэсціся ад хвалявання, калі раптам машына, якая ардынарна праігнаравала мой кліч, раптам затармазіла. З салона выскачыў бландзін у капелюшы і нервова кружыў вакол чырвонага «Аўдзі». Калі я дабралася да месца, ён усё яшчэ не ведаў, што рабіць. Найгорш, што не працавала тэлефонная сувязь, каб паклікаць дапамогу. Што рабіць? У які бок кінуцца, дзе шукаць дапамогі? Ад стомленасці і нерваў ён сеў за руль і без спадзявання запусціў матор. Чырвонае «Аўдзі» завуркатала і рушыла з месца. Нечакана я зноў апынулася на возе! У час размовы я даведалася, што шафёр — сталічны хлапец. Прыехаў з Кіева адпачыць сярод палескіх балот. А зараз ён выправіўся на канал на рыбалку. І вельмі рады, што падвязе мяне шэсць кіламетраў...



Царква ў Кутані

Праўда, тая радасць была накліканая маім польскім акцэнтам. Хлапец з сентыментам успамінаў Вроцлаў, дзе ўдзельнічаў у праекце па пытанні самакіравання па раёнах.

На палескім бездарожжы хутчэй за ўсё наткнешся на пасрэднікаў у нелегальным гандлі бурштынам. Іх можна пазнаць пра звышмабільнасці і салідных машынах. Паколькі я знаходзілася ў зоне бурштыну, асцярожна закранула гэтую тэму.

— Зараз ужо адыходзяць ад масавай дабычы бурштыну, — адказаў з веданнем справы маладзён. — А чаму? Бо ў Кітаі прайшла мода на бурштын і рэзка панізілася яго цана. Праўда, кітайцы не маюць ахвоты адступаць з Палесся. Зараз яны паставілі на лён ды падпісалі кантракт на сто сорак мільёнаў долараў. Лён пасеюць і апрацуюць у наваколлі Роўна...

Апошняй весткі мне не ўдалося праверыць, захаваць дыстанцыю застаўляла таксама ананімнасць інфарматара, які літаральна выскачыў з кустоў. Але гэтая навіна шмат пасняла атмасферу адной сустрэчы. У Дубровіцы, дзе я рашыла занатаваць перад дарогай, бос Вася, мой бурштынавы герой, зусім не хацеў размаўляць пра янтар, а толькі гандаль саломай з трыснягу. Пераход з бурштыну на салому падаўся мне моцна падазроным.

* * *

Два апошнія кіламетры я ішла пешшу. Гэты адрэзак камяністай дарогі зляцеў як з біча. Калі я дайшла на прыпынак у Марочна, якраз прыехаў аўтобус, які ехаў у напрамку Задоўжа. Гэтае сяло з аднайменным возерам знаходзілася недалёка Любашова, якое я аб'ехала кругаля, набіваючы сотні кіламетраў. Здавалася, балоцісты краявід з васільковым небам праглынуў мяне ў свой зялёны жывот.

Перад Кутанем, дзе мяне палічылі этнографам, я наведала сяло Локніца. Тут панавала адчайная цішыня як у нашай падляшскай Локніцы.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 14